ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 33 (2591)

20 жніўня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

БЕЛАРУСКАЯ ФУНДАМЕНТАЛЬНАЯ НАВУКА

## Я САБЕ ЎЖО ЎСЁ ДАКАЗАЎ?

**Імя дырэктара Інстытута ядзернай фізікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзіміра БАРЫШЭЎСКАГА непарыўна звязана з распрацоўкай савецкай стратэгічнай абароннай ініцыятывы. Пасля пачатку перагаворнага працэсу паміж Амерыкай і СССР ён прымаў удзел у савецка-амерыканскім эксперыменце на крэйсеры "Слава" па дыстанцыйнаму выяўленню ядзерных боегаловак, уваходзіў у склад навуковай эліты айчыннага ваенна-прамысловага комплексу. Сёння група вучоных-фізікаў, якую ўзначальвае Барышэўскі, пачынае серыю эксперыментаў у галіне стварэння прынцыпова новага класа аб'ёмных лазераў на свабодных электронах, што дазволіць ім заняць вядучае месца ў гэтым напрамку сусветнай навукі.**

— *Уладзімір Рыгоравіч, як бы вы ацанілі сённяшні стан беларускай навукі?*

— Я лічу, што яна знаходзіцца ў глыбокім крызісе, зрэшты, як і эканоміка, ды і практычна любая іншая сфера нашага жыцця. Да пачатку перабудовы ў развіццё беларускай навукі рабіліся сур'ёзныя інвестыцыі, і, дзякуючы гэтым уліванням, у краіне была створана сур'ёзная навуковая база, якой мы карыстаемся да гэтага часу. Калі б так працягвалася яшчэ дваццаць-трыццаць гадоў, тут стварылася б самастойнае інтэлектуальнае супольніцтва па прыкладу тых, што існуюць у невялікіх высокаразвітых еўрапейскіх краінах. У нас жа атрымалася ўсё па-іншаму: стан навукі можна ацаніць як катастрафічны, і, каб яго змяніць, неабходна воля тых, хто фарміруе дзяржаўную палітыку.

— *Як вы лічыце, вытокі гэтага крызісу трэба шукаць толькі ў эканамічных прычынах ці справа ў адсутнасці таленавітых людзей?*

— Кожны год на фізфак прыходзяць сотні студэнтаў, і зусім незалежна ад сітуацыі ў дзяржаве з агульнай колькасці гэтых юнакоў абавязкова ёсць

(Заканчэнне на 3-й стар.).

МУЗЕІ

## ВАЛЕНЦІЙ ВАНЬКОВІЧ ВЯРТАЕЦЦА НА РАДЗІМУ



Імя беларускага мастака пачатку XIX стагоддзя Валенція Ваньковіча яшчэ зусім нядаўна было вядомае прафесіяналам і хіба што некаторым аматарам беларускай гісторыі і мастацтва. Разам з тым гэты чалавек — адзін з найвыдатнейшых дзеячаў нацыянальнай культуры. Ён нарадзіўся 12 мая (па старым стылі) 1800 года ў маёнтку Калюжыца Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяперашні Бярэзінскі раён) у дваранскай сям'і — суддзі Мельхіёра Ваньковіча і Схаластыкі Гарэцкай. Адукацыю атрымаў выдатную: скончыў школу полацкага езуіцкага Калегіума, факультэт вольных мастацтваў Полацкай акадэміі, факультэт літаратуры і мастацтва Віленскага універсітэта і Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, куды, дарэчы, быў накіраваны рашэннем Савета Віленскага універсітэта і за кошт навучальнай установы.

Валенцій Ваньковіч быў знаёмы і сябраваў з многімі вядомымі і слаўтымі людзьмі Беларусі, Польшчы і Расіі той эпохі, пісаў іх партрэты — піяністкі Марыі Шыманоўскай, скрыпача Караля Ліпінскага, паэта Аляксандра Пушкіна, членаў сям'і Манюшкаў... А партрэт "Адам Міцкевіч на Аю-Дагу", што экспанаваўся ў 1828 годзе ў Акадэміі мастацтваў, не толькі зрабіў аўтара знакамітым, але стаў сапраўдным хрэстаматыйным творам.

Пэндзлю Валенція Ваньковіча належыць немалая колькасць работ. Ён быў вельмі працавітым, настойлівым, пісаў шмат партрэтаў сяброў і родзічаў, якія нярэдка аказваліся вядомымі асобамі свайго часу. Ваньковічы знаходзіліся ў сваяцтве з Ордамі, Корсакамі, Малеўскімі, Міцкевічамі, Манюшкамі, Гарэцкімі.

Памёр Валенцій Ваньковіч у сорак два гады ў Парыжы, дзе на той час жыў у сям'і Міцкевічаў.

**НА ЗДЫМКУ:** аўтапартрэт Валенція **ВАНЬКОВІЧА.**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НАЛІБОЦКАЯ НАВЕЛА

## ХУТАРАНІН

Калі вакол хутара Юрэвіча секлі лес, маці Леанарда Робертавіча, у той час лесніка Івянецкага лясніцтва Валожынскага лягсаса, хадзіла з пакоя ў пакой, нервова цярэбячы фартух, і раз-пораз падыходзіла да акна. Зірнуўшы на лесарубаў, што мітусіліся на палянцы, цяжка ўздыхала. Затым выходзіла ў двор, нібы па гаспадарчай



патрэбе, і, схаваўшыся за хлеў, назірала адтуль за работай людзей. Выццё бензапіл, глухія ўдары сякер і, як ёй здавалася, са стогнам падаючыя дрэвы рэзалі слых жанчыны, прывыкшай да ляснолй цішыні. Яна спяшалася схавацца ад гэтага шуму ў сценах свайго дома. А вечарам, калі сын вярнуўся дамоў, выказала яму тут жа з парога ўсю горыч, што накапілася за дзень. Леанард папакепліваў са старой, маўляў, быў некалі лес ваш — юрэвіцкі, а цяпер наш — дзяржаўны. Маці з прыкрасцю махнула рукой і ледзь чутна вымавіла: "Падрубі корань, і дрэва засохне".

Хутар у глыбіні Налібоцкай пушчы заснаваў яшчэ прадзед Леанарда Робертавіча. Сабраў грошай і выкупіў у братоў Тышкевічаў 60 дзесяцін лесу. Высек дзялянку, распрацаваў і паставіў дом. Сталі Юрэвічы заможнымі хутаранамі. А затым прыйшоў час і Леанарда, але "польскі час" скончыўся. Калектывізацыя паглынула хутаран як праслойку сялянства. Выключэннем аказалася сям'я Юрэвічаў. У 35-м годзе гаспадыня пахавала мужа, застаўшыся сярод лесу з чатырма дзецьмі. У 13-гадовым узросце Леанард стаў выконваць усю бацькоўскую працу. Малодшыя сёстры дапамагалі маці. Удаву з дзецьмі не сталі высяляць з хутара. Аднак зямлю абрэзалі, пакінуўшы толькі невялікі надзел вакол дома. Цяжкая пара настала для ўдовай хутаранкі. Але нават пасля смерці мужа ў гаспадарцы Юрэвічаў вадзілася да 12 галоў рознай жыўнасці. А ў гэты час — як выкарміць хаця б пару парасят? Узяў Леанард бацькоўскае ружжо (як гэта яго яшчэ не канфіскавалі? Відаць не трапілася на вочы сельсаветчыкам), дастаў патроны і пайшоў на паляўнічы промысел.

А давялося яму ў жыцці паспытаць усяго ў дастатку. Вайна не абышла бокам лясны хутар. Аб тым, што немцы плануюць правесці карныя аперацыі супраць партызан і што іх сядзіба трапляе ў зону ваенных дзеянняў, гаспадыні паведаміў украінец-паліцэйскі. Нядоўга думаючы, сабрала самае неабходнае. Дакументы (сярод якіх пасведчанне на права валодання лесам) закапала на агародзе і падалася з дзецьмі ў суседнюю вёску да блізкіх сваякоў. Вярталася ж давялося на папялішча.

Не ў характары Юрэвічаў блукаць па кутах. Ды і зямля з лесам — гэта іх крэўнае, палітае потам яе мужа і свёкра. У гэтым доме нарадзіла чацвярых. "Тут нам і быць", — вырашыла. Сабралі ацалелы скарб. Выкапалі зямлянку. Бацькоўскае ружжо цяпер стала пастаянным спадарожнікам юнака, а паляўнічыя гісторыі — прадметам гутарак з мужыкамі з навакольных вёсак.

Неяк на Каляды, у 1944 годзе, пайшоў Леанард на паляванне. Мароз абпальваў лёгкія і шчокі. Прабіраючыся па глыбокім снезе, шукаў сляды звера і ў думках уяўляў, як абрадуюцца хатнія, калі ён вернецца дамоў не з пустымі рукамі. Маці зварыць мясны булён, будзе добра прасмажанае на вогнішчы мяса. Голад маляваў у думках розныя стравы. Да рэальнасці яго вярнуў нейкі незразумелы трэск пад нагамі. Ён і не заўважыў, як прыйшоў да рачулкі — месца вадапою ляснога звера. Вось і ахвяра. Вялізны дзік выходзіў з зараснікаў арэшніка, накіроўваючыся прама на Леанарда. Звер яшчэ не заўважыў паляўнічага. Ды і вецер дзьмуў не з боку чалавека. Пасля першага выстрала дзік захрыпеў і кінуўся да выратавальнага гушчара. Другая куля аказа-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

БЫВАЙ, ЛЕЦЕЙКА!



**Летні дзень на Камсамольскім возеры ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ЮБІЛЕІ*



Вядомаму беларускаму кампазітару, старшыні Саюза кампазітараў Ігару ЛУЧАНКУ споўнілася 60. За вялікія заслугі ў развіцці музычнага мастацтва, актыўную грамадскую дзейнасць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА ўручыў юбіляру ордэн Францішка Скарыны.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

*ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

## АТЛАС ЗАБРУДЖАННЯ ЕЎРОПЫ ЦЭЗІЕМ

Днямі ў Вялікабрытаніі быў выдадзены атлас забруджання Еўропы цэзіем пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Атлас складаецца з 45 тэкставых старонак і 130 старонак картаграфічнага матэрыялу.

У атласе паказана ў асноўным забруджанне тэрыторый Еўропы цэзіем-137, таму што ён належыць да лятучых элементаў і распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе. Акрамя таго цэзій-137 быў выкінуты з рэактара ў вельмі вялікай колькасці і з'яўляецца радыенуклідам, які жыве доўга. У атласе дадзены таксама звесткі і фрагменты карт забруджання тэрыторый стронцыем-90 і плутоніем.

З атласа можна даведацца, што самая вялікая пляма вельмі моцнага забруджання (больш як 40 кюры на 1 квадратны кіламетр) знаходзіцца ў Беларусі — 2,6 квадратнага кіламетра, потым ідзе Украіна — 0,56 і Расія — 0,46 квадратнага кіламетра. У іншых краінах Еўропы самае вялікае забруджанне не перавышае 2—5 кюры на квадратны кіламетр. Напрыклад, такія плямы былі знойдзены ў Фінляндыі, Аўстрыі, Швецыі і Францыі.

Трэба адзначыць, што атлас быў распрацаваны і надрукаваны пры фінансавай дапамозе Еўрапейскага Саюза. Беларусь бязвыплатна атрымала ад выдаўцоў 78 экзэмпляраў атласа.

*«ФОРД ЮНІЯН»*

## ПРАЦУЕ НА «ВЫДАТНА»

Першынец аўтамабілебудавання нашай краіны — СП "Форд Юніян" — апраўдаў надзеі, якія на яго ўскладаліся. Сваё задавальненне станам спраў на прадпрыемстве выказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з генеральным дырэктарам "Форд Юніян" Нілам Кампбэлам.

Пагадненне аб стварэнні гэтага беларуска-амерыканскага сумеснага прадпрыемства было падпісана паміж урадам нашай рэспублікі, кампаніяй "Форд мотарс" і фірмай "Лада ОМС" крыху больш чым два гады таму. Ужо ў пачатку красавіка мінулага года з канвеера новага завода, размешчанага ў пасёлку Абчак Мінскай вобласці, сышла доследная партыя мікрааўтобусаў "Форд Транзіт", а яшчэ праз некалькі месяцаў — першы легкавы аўтамабіль "Форд Эскорт". К пачатку гэтага года завод выпусціў больш чым тысячу аўтамабіляў.

Закранаючы перспектывы развіцця прадпрыемства, Прэзідэнт краіны заявіў аб сваёй згодзе з прапанаванамі кіраўніцтва "Форд Юніян" па пашырэнні вытворчасці аўтамабіляў у Беларусі.

*НАВІНЫ ААН*

## КОНКУРС НА НОВЫ КАЛЯНДАР

ААН аб'явіла сусветны конкурс на новы каляндар, таму што, на думку многіх спецыялістаў, структура грыгарыянскага календара, па якому практычна ва ўсіх краінах свету вядзецца летазлічэнне, недасканалая. Аб гэтым паведамляе "Веснік Расійскай акадэміі навук".

Як адзначае "Веснік", на змену грыгарыянскаму календару можа прыйсці "Сусветны люстрана-сіметрычны пастаянны каляндар", распрацаваны на ўвядзенне з 1 студзеня (панядзелка) 2001 года.

Кожны месяц гэтага календара ўтрымлівае 28 дзён (чатыры тыдні па сем дзён). У кожны квартал года ўваходзіць адзін квартальны тыдзень, які ўзначальвае пачатак квартала і тым самым кожнага сезона года (зімы, вясны, лета, восені), а таксама тры чатырохтыднёвыя месяцы. Такім чынам, у кожным квартале года ўтрымліваюцца 91, а ў годзе — 364 сутак.

Высакоснымі гадамі заўсёды з'яўляюцца 4, 9, 15, 20 і 26 гады 28-гадовага цыкла. У мяркуемым календары панядзелку заўсёды адпавядаюць 1, 8, 15 і 22 чыслы кожнага месяца любога квартала і года, аўторку — 2, 9, 16 і 23 і г. д.

*НАВІНКА*

## ПЯЦЬ МАДЭЛЕЙ «ГАРЫЗОНТА»

Вытворчаму аб'яднанню "Гарызонт" апошнім часам удалося рэзка павысіць свой канкурэнтны патэнцыял на рынках СНД.

Як паведамілі ў адміністрацыі прадпрыемства, у жніўні ў гандлёвую сетку паступілі пяць новых мадэлей тэлевізараў. Па якасці яны нічым не ўступаюць прадукцыі вядучых замежных фірм "Філіпс", "Самсунг", "Эл Джы", а каштуюць пры гэтым у паўтара-два разы менш.

Новыя мадэлі маюць арыгінальны дызайн, абсталяваны простай у абыходжанні сістэмай меню, функцыяй "кадр у кадры", магутнай акустычнай сістэмай. Тэлепрыёмнікі камплектуюцца кінескопамі "Панасонік", "Томсан Супер Блэк". Зборка тэлевізараў ажыццяўляецца на аўтаматычнай лініі "Філіпс".

*З ПАЛОНУ*

## ЛЁТЧЫКІ ВЯРНУЛІСЯ ДАДОМУ

Шэсць месяцаў практычна нічога не ведалі родныя і блізкія пра лёс расійскага пілота верталёта Аляксандра Сапожнікава і яго экіпажа з грамадзян Беларусі Васіля Кулькова, Івана Мартыновіча і Уладзіміра Чэпеля. Яны працавалі па кантракту ў афрыканскай краіне Сьера-Леоне, калі там пачалася крывапралітная міжусобіца. Спачатку верталётчыкі апынуліся ў палоне ў мясцовых путчыстаў і пад пагрозай смерці выконвалі іх загады, а пасля апынуліся ў руках законнага ўрада, які мог абвінаваціць лётчыкаў ва ўдзеле ў змове і пакараць смерцю. Больш пяці месяцаў экіпаж правёў у наручніках і кайданах у турэмнай камеры. Жонкі лётчыкаў звярнуліся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, якое адрасавала сваю просьбу аб садзейнічанні ў вызваленні палонных у МЗС Расіі. Не без цяжкасці, але экіпаж удалося вызваліць. Днямі лётчыкі вярнуліся дадому.

*ЖНІВО-98*



1 210 гектараў збожжавага палетка ўжо ўбрана ў калгасе "1 Мая" Дзятлаўскага раёна, з іх жыта і пшаніца — на 80 працэнтах плошчы, трыцікале — на ста працэнтах. Хаця надвор'е не спрыяе, тут разлічваюць атрымаць не менш 32 цэнтнераў збожжа з гектара.

НА ЗДЫМКУ: у час абедзеннага перапынку ў полі.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

*ПРЫСУД*

## ПАЖЫЦЦЁВАЕ ЗНЯВОЛЕННЕ

Упершыню ў Беларусі Вярхоўны суд прыгаварыў забойцу да пажыццёвага зняволення. Такая мера пакарання прадугледжана нашым заканадаўствам нядаўна і пакуль ажыццёўлена ў адносінах да аднаго чалавека. Пры гэтым толькі летась вышэйшая мера пакарання — расстрэл — прыменена да 33 грамадзян.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ЛУКАШЭНКА-МАЛОДШЫ ПОЙДЗЕ Ў АРМІЮ

У час наведвання Нясвіжскага раёна Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка абвергнуў чуткі аб назначэнні яго сына пасло́м Беларусі ў Швейцарыі.

Кіраўнік дзяржавы заявіў, што Віктар Лукашэнка праз тры месяцы пойдзе служыць у армію. Ён скончыў вышэйшую навучальную ўстанову і мае воінскае званне лейтэнанта. Магчыма, Лукашэнка-малодшы будзе служыць у пагранічных войсках. А пакуль, да пачатку ваеннай службы, Віктар будзе працаваць у Міністэрстве замежных спраў.

*СЛУЖБА ЗАНЯТАСЦІ*

## ШАНЦ ДЛЯ ВЫПУСКНІКА

Паказчыкі афіцыйна зарэгістраванага ў краіне беспрацоўя па-ранейшаму працягваюць зніжацца. Калі ў пачатку 1998 года гэты статус мелі 126,2 тысячы нашых грамадзян, у пачатку чэрвеня — 109, то ў пачатку жніўня — 103,4 тысячы.

Разам з тым вельмі вострай застаецца праблема маладзёжнага працаўладкавання. Паводле статыстычных даных, амаль палову ад усіх зарэгістраваных у Беларусі беспрацоўных складаюць людзі ва ўзросце да 30 гадоў. Прычым адметна, што, нягледзячы на ўведзеную практыку размеркавання, на ўліку ў службах занятасці знаходзіцца больш за 4 тысячы выпускнікоў ВНУ, тэхнікумаў і ПТВ.

У сувязі з гэтым, як паведамілі карэспандэнту "Звязды" ў Камітэце па занятасці насельніцтва, днямі з'явілася спецыяльная пастанова Міністэрства працы, якая датычыцца менавіта маладых спецыялістаў. Гаворка аб тым, што наймальніку, які прымае да сябе выпускніка, зараз будзе прадастаўляцца магчымасць да працягу да 6 месяцаў атрымліваць своеасаблівую 50-працэнтную "кампенсацыю" на аплату яго працы за кошт сродкаў службы занятасці.

*УНІКАЛЬНЫ ПОЕЗД*

## ПА СУМЕСНАМУ ПРАЕКТУ

З расійскага горада Дземіхава прыбыў у распараджэнне віцебскага аддзялення чыгункі унікальны поезд. Ён выраблены па сумеснаму беларуска-расійскаму праекту, аснашчаны цеплавозам і прызначаны для прыгарадных зносін. Кожны з дзесяці вагонаў Дземіхаўскага машынабудаўнічага завода можа ўмясціць да 300 чалавек. У адрозненне ад тыпавых электрычак і дызель-паяздоў, аснашчаны туалетам і ацяпляецца зімой.

Пасля абкаткі састаў, прыпісаны ў дэпо Полацка, будзе курсіраваць па маршруту Бігосава—Смаленск. Мяркуецца, што ў Віцебск паступіць яшчэ тры саставы з Дземіхава, а ўсяго ў Беларусь — 20.

*БЕЛАРУСКАЯ СОЛЬ*



Каля 1 200 тон солі здабываецца штосутачна на АА "Мазырсоль", трэць з якой паступае ў продаж у ёдаваным выглядзе. Сярод спажыўцоў мазырскай солі — Балгарыя, Венгрыя, Расія. Значная частка мазырскай прадукцыі адгружаецца ў краіны Балтыі, сярод якіх больш за ўсё купляе беларускую соль Эстонія.

НА ЗДЫМКУ: лабаранты Руслана ЖОЛУД і Людміла ГАРОХАВІК даследуюць новыя ўзоры ёдаванай солі, прызначанай на экспарт.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

*НОВААПОСТАЛЬСКАЯ ЦАРКВА*



Вось такі будынак арыгінальнай канструкцыі ўпрыгожыў нядаўна палескі Мазыр. Новаапостальская царква стала не толькі духоўным цэнтрам для яго жыхароў, але і архітэктурным здабыткам горада.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

*ПРЫСВОЕНА ІМЯ*

## СТВАРАЛЬНІКУ ЭСПЕРАНТА

Яшчэ адно месца ў Гродне з гэтага часу будзе звязана з памяццю медыка і вучонага Людвіка Заменгофа — стваральніка міжнароднай мовы эсперанта. Рашэннем гарадскіх улад яго імя прысвоена новай вуліцы, размешчанай у пасёлку Паўднёвы.

Людвік Заменгоф жыў у Гродне ў 1893—1897 гадах у старадаўнім будынку на цяперашняй вуліцы Кірава. Пра гэта напамінае мемарыяльная дошка, якая з'явілася тут некалькі гадоў назад. Дарэчы, надпіс на ёй зроблены на дзвюх мовах — беларускай і эсперанта. Цікава і тое, што месца жыхарства вучонага удакладнёна па даных аб перапісе насельніцтва, праведзеным у горадзе ў 1895 годзе, — адпаведныя паперы параўнаўча нядаўна знойдзены ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве. Вучоны значыўся ў штаце вольнапрактыкуючых урачоў пры Гродзенскім губернскім праўленні.

НОВАБУДОЎЛІ

# У ПАШАНЕ СПОРТ

Як вядома, праблемам развіцця спорту ў нашай краіне ўдзяляецца павышаная ўвага. На працягу бліжэйшых двух гадоў (а там-сям і раней) практычна ва ўсіх абласных цэнтрах (акрамя Гродна, дзе такое спартыўнае збудаванне ўжо ёсць) будуць узведзены Палацы спорту.

У самой жа сталіцы на сёння будуецца новы Палац хакея на 2,5 тысячы гледачоў па вуліцы Прытыцкага. У дзеянне ён будзе ўведзены сёлета ў снежні. Тады ж у строй увойдзе яшчэ адна хакейная пляцоўка, размешчаная з адваротнага боку Мінскага палаца спорту. Гэту адкрытую пляцоўку, якая выкарыстоўваецца для зімовых трэніровак хакеістаў, плануецца "прыкрыць" зверху і зрабіць з яе крыты павільён для гульні ў хакей.

Разгорнута будаўніцтва Палаца спорту на 2 300 гледачоў у Брэсце. Ён будзе шматфункцыянальным, паколькі там магчыма правядзенне валейбольных, баскетбольных, футбольных і іншых спаборніцтваў. Прадугледжана там пакрыццё са штучнага лёду.

Акрамя таго, запланаваны ўвод Палацаў спорту ў Віцебску — на 2 тысячы месцаў, Магілёве — 3 тысячы, Гомелі — 2 700. Усе палацы канструктыўна розныя, гэта унікальныя збудаванні, поўнасцю індывідуальна распрацаваныя. Ва ўсіх палацах прадугледжаны штучны лёд, а ўвод іх запланаваны на жнівень 1999 года.

Палацы будуюцца універсальнымі, і акрамя спартыўных спаборніцтваў, там магчыма правядзенне вялікіх канцэртаў, дыскатэк, выстаў. Распрацоўваецца і праект зімовага стадыёна "Алімпійскі" ў парку Чэлюскінцаў на 5 тысяч гледачоў, які стане унікальным збудаваннем. Пад дахам 400 квадратных метраў прадугледжана крытая бегавая дарожка для канькабежцаў, хакейная каробка са штучным лёдам. У перспектыве прадугледжваецца будаўніцтва крытых тэнісных кортаў, аквапарку.

Увод у строй запланаваны на снежань 1999 года. Цяпер прадпрыемства "Белпрампраект" вядзе інтэнсіўнае праектаванне гэтых спартыўных аб'ектаў.

**Вера АНТОНАВА.**

# Я САБЕ ЎЖО ЎСЁ ДАКАЗАЎ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

дзесяць-дванаццаць выключна здольных людзей, якія хочуць працаваць у навуцы. Яны ідуць у фундаментальную навуку нягледзячы на тое, што зарплата вучонага сёння вельмі і вельмі малая і даволі доўгі час ім давядзецца знаходзіцца ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы.

— *Ці многа грошай патрабуе беларуская навука?*

— Я ведаю, што многія цяпер на мяне пакрыўдзяцца, але лічу, што грошай, якія дзяржава выдзяляе на фундаментальную навуку, цалкам бы хапіла, калі б іх выдзялялі менавіта на фундаментальную навуку. Праблема ў тым, што ёсць вельмі многа работ, прысвечаных развіццю тэхнікі і тэхналогіі, якія таксама ідуць у разрадзе "навука". І ў выніку яны пачынаюць душыць фундаментальныя даследаванні. Прыкладныя даследаванні абяцаюць даволі хуткія вынікі, а аддача ад фундаментальных даследаванняў будзе яшчэ не скора. Гэта гаворыць яшчэ і аб недастатковым разуменні ролі фундаментальнай навукі ў нашым грамадстве. Між тым, яна была важная і ў сярэдзіне стагоддзя, так што даказваць ролю фундаментальнай навукі лічу бяссэнсавым. Гэта і так відавочна. Калі даць нармальнае фінансаванне навуковым групам, якія яшчэ захаваліся, будзе выратавана ўся навука. У якасці прыкладу можна ўзяць наш універсітэт: калі стала зусім цяжка, знайшліся сродкі, каб яго захаваць, і ў выніку на невялікія фундаментальныя работы па самых галоўных напрамках грошы нам выдзяляюцца практычна заўсёды. У гэтым сэнсе я, як вучоны-адзіночка, з невялікай групай сваіх супрацоўнікаў магу гаварыць, што грошай мала, але што іх няма, сказаць не магу.

— *Як вам удалося захаваць сваю навуковую групу?*

— Нехта прыходзіў, нехта нас пакідаў, уся моладзь паехала ў Злучаныя Штаты Амерыкі і цяпер працуе там, а адзін чалавек працуе ў Бразіліі і кіруе там буйным навуковым падраздзяленнем. І справа не ў адсутнасці патрыятызму, проста тут, на радзіме, многія не маюць магчымасці паўнацэнна займацца навуковай дзейнасцю, а для вучонага — гэта прафесійная смерць. Што тычыцца людзей майго пакалення, то тыя, хто тут працаваў, так і працягваюць працаваць. Мне зразумелая прычына, па якой яны застаюцца: немагчыма кінуць сваю групу. Бо грошы, няхай мізэрныя, даюць не пад паказчыкі, а пад імя.

— *Чым цяпер займаецца ваша навуковая група?*

— Наш інстытут прызнаны галаўным у рэспубліцы па стварэнню апаратуры радыеэкалагічнага маніторынга. Мы вырашылі праблему кантролю цэзію, поўнасцю забяспечыўшы Беларусь прыборамі сусветнага ўзроўню, якія могуць ажыццяўляць радыялагічны кантроль навакольнага асяроддзя, выкарыстоўвацца як прафесійнымі службамі радыяцыйнай бяспекі, так і галінамі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і транспарту, а таксама службамі таможнага дагляду для прадухілення несанкцыянаванага ўвозу і вывазу радыеактыўных крыніц і матэрыялаў. Я ад гэтага зведваю задавальненне як чалавек, але не як вучоны, таму што выкананне такіх практычных задач у рэшце рэшт цягне нас уніз. Але самае забаўнае, што мы працягваем працаваць, і за меншыя грошы на істотна меншых установках мы зноў вельмі хутка будзем наперадзе планеты ўсёй. Вы якраз прыйшлі ў той момант, калі мы пачынаем наступны этап па стварэнні прынцыпова новага класа лазераў на свабодных электронах. У свой час для гэтага, уласна, і стварайся наш інстытут, потым усе грошы, адпушчаныя на нашы работы, прапалі, але мы, нарэшце, навучыліся таму, як за мізэрныя грошы выжываць і працаваць. Цяпер я разумею, што мы па гэтаму напрамку апярэджвалі заходніх вучоных на дзесяць гадоў, і гэта нас выратавала, бо, на шчасце, мы захавалі ўсё наша абсталяванне і цяпер пачынаем актыўныя эксперыменты. Калі ўсё пойдзе нармальна, то праз год наша група зойме лідзіруючыя пазіцыі ў гэтым напрамку сусветнай навукі.

— *Гэта гучыць зусім неверагодна сёння, тут, у нашых умовах...*

— Тым не менш, так яно і ёсць. Ведаеце, успамінаючы стары анекдот, магу сказаць, што на самай справе ўсё, што трэба рабіць, — гэта веславаць. Я іншы раз з іроніяй гавару, што маё дзяцінства прыпала на галодныя ваенныя і пасляваенныя гады, таму патрэбы не паспелі сфарміравацца, і мне, па сутнасці, не так ужо многа трэба. А што тычыць навукі, то наш чалавек выйсце знойдзе заўсёды.

— *Ці ўсе эксперыменты будуць праводзіцца ў Беларусі?*

— Частка эксперыментаў будзе праводзіцца тут, у Беларусі, а частка — у інстытуце ядзерных даследаванняў універсітэта Майнца, дзе пабудаваны паскаральны комплекс, які дазволіць ажыццявіць стварэнне першага прататыпа аб'ёмнага лазера на свабодных электронах.

— *Але ж у Соснах, пад Мінскам, маецца вельмі эфектыўная ўстаноўка...*

— Яна ўжо многа гадоў бяздзейнічае з-за таго, што няма сродкаў на аплату электраэнергіі, няма і спецыялістаў, таму паскаральнік закансерваваны. Думаю, што на даным этапе ён наўрад ці запрацуе.

Акрамя працы па лазерах, мы праводзім вельмі сур'ёзны эксперымент у галіне даследавання сіметрыі законаў прыроды адносна цячэння часу. Калі гаварыць прасцей, то мы правяраем, ці можна зрабіць машыну часу. І вельмі важна тое, што фізічныя з'явы, якія ляжаць у аснове эксперымента, упершыню былі прапанаваны і апісаны ў нас. Тут мы зноў выступаем пінерамі, а гэта ж — самы перадавы край навукі.

— *Ці вядомая сёння беларуская навука за рубяжом?*

— Працы нашай групы ведаюць там вельмі добра. Візітная картка вучонага — гэта тое, як часта на яго спасылаюцца. У гэтых адносінах мы — рэкардсмены, на нас спасылаюцца вельмі часта. Мы ажыццяўляем сумесны эксперымент з фізікамі з Майнца, і наўрад ці нашы замежныя партнёры сталі б укладваць грошы ў праект, у якім не былі б упэўненымі. Адначасова мы вядзем працу ў ЦЕРНе. Намі створаны новы клас сцынтылятараў — прыбораў, якія дазваляюць вельмі эфектыўна рэгістраваць часцінкі вялікіх энергій. Яны аказаліся настолькі эфектыўнымі, што цяпер імі будзе камплектавацца паскаральнік для самага фантастычнга эксперымента ў свеце, які цяпер вядуць фізікі. Ён дазволіць зафіксаваць пакуль гіпатэтычныя часцінкі, выяўленне якіх пацвердзіць тэарэтычныя ідэі, выказаныя вучонымі за апошняе дзесяцігоддзе. Калі гэта адбудзецца, то цэлы этап пабудовы фізічнай карціны свету будзе завершаны і пачынаецца наступны. Для гэтага ў ЦЕРНе ў Швейцарыі пабудаваны спецыяльны паскаральнік, і галоўная яго частка, "вочы" ўстаноўкі, камплектуецца са створаных намі сцынтылятараў. Прычым, гэта нашы старыя напрацоўкі часоў Савецкага Саюза. Гэта вельмі буйны сумесны праект, у які ўцягнута многа краін.

— *А ці не ўзнікае тут праблемы навуковага прыярытэту?*

— Гэта не навука, а тэхніка і тэхналогія навуковага эксперымента, а прыярытэт у стварэнні сцынтылятара за намі ўжо даўно замацаваны.

— *Нядаўна з'явіўся новы тэрмін — адзіная навуковая прастора. На ваш погляд, гэта рэальнасць ці проста словы?*

— Вельмі многія работы трымаюцца на рэальных сувязях з сябрамі-вучонымі ў Расіі. Ад такіх дэкларацый для нас нічога не мяняецца. Але з пункту гледжання ўзаемадзеяння дзвюх дзяржаў гэта важна, таму што заўсёды, калі з чыноўнікаў пачынаюць вытрасаць грошы, яны павінны бачыць перад сабой дакумент, паперу, бо не могуць выдзеліць грошы без вырашэння бюракратычных пытанняў. Такія пагадненні патрэбныя не для вучоных, а для чыноўнікаў, бо калі няма дагаворанасці паміж дзяржавамі, немагчыма ажыццявіць сумесныя навуковыя праекты.

— *У Беларусі не спыняецца спрэчка паміж прыхільнікамі і праціўнікамі будаўніцтва атамных станцый. А што думаеце пра гэта вы?*

— Я лічу, што, па-першае, чалавецтву без ядзернай энергетыкі не абысціся, а, па-другое, ніхто з нас не задумваецца, што ў час звычайнага палёту на самалёце чалавек атрымлівае вельмі вялікую дозу радыеактыўнага апраменьвання. Таму ў аснове непрыняцця атамнай энергетыкі ляжыць псіхалогія, а не рэальныя разлікі. Але, на маю думку, на даным этапе тут нічога будаваць нельга, таму што выкарыстанне атамнай энергетыкі прадугледжвае высокаразвітую і стабільную дзяржаву. Я рэзка супраць таго, каб будаваць АЭС у Беларусі цяпер, калі людзі ўзбуджаны, а ў грамадстве няма згоды. Але пры тым я лічу, што сёння нам трэба ўважліва вывучаць і прапрацоўваць гэтае пытанне, таму што дзяржава не павінна апынуцца ў сітуацыі, калі праз дзесяць гадоў зменіцца грамадская думка, тэхніка, тэхналогія, і краіна пачне адчуваць недахоп энергіі. Чалавецтва без ядзернай энергетыкі не абыдзецца, а значыць не абыдзецца без яе і Беларусь. Гэтае пытанне проста бессэнсоўна абмяркоўваць.

— *Апошнім часам перад чалавецтвам вельмі востра паўстае пытанне ядзернага тэрарызму. Што вы думаеце пра гэта?*

— Я магу з упэўненасцю сказаць, што для прадухілення актаў тэрору нашай дзяржавай робіцца ўсё магчымае і немагчымае. Праблема гэта выключна сур'ёзная па адной простай прычыне: нават калі ядзерны тэракт адбудзецца раз у сто гадоў, гэта ўсё роўна стане жудаснай трагедыяй, якая ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва. Я думаю, што пагроза ядзернага тэрарызму — сёння самая вялікая небяспека ў свеце. Тым больш, што краін, якія валодаюць ядзернай зброяй, становіцца ўсё больш і больш, і хто ведае, дзе сёння вядуцца работы па стварэнню бомбы? Грамадства павінна шукаць механізмы рэагавання на імклівае развіццё навукі, тэхнікі і тэхналогій. Свет павінен аб'ядноўвацца, таму што любы, нават вельмі моцны індывідуум будзе больш слабым за супольніцтва ў цэлым.

— *Ці не атрымецца, што страх перад пагрозай ядзернага тэрарызму аб'яднае свет?*

— Думаю, што наш свет, які вельмі імкліва развіваецца, аб'яднае ўсё такі эканоміка.

— *Вы доўгія гады працавалі над стварэннем стратэгічнай абароннай ініцыятывы, стваралі магутныя сістэмы зброі. У вас ніколі не ўзнікала адчування, што гэтая краіна выкарыстоўвала ваш розум, інтэлект, талент у сваіх далёка не мірных мэтах?*

— Абсалютна ніколі. Больш таго, я лічыў і лічу, што Савецкі Саюз рабіў правільна, і Расія павінна працягваць гэта рабіць. Вялікая дзяржава не можа дазволіць сабе існаваць без зброі. Свет не ідэальны, і чаму б гэта людзям, якія ваявалі ўсю сваю гісторыю, узяць і раптам змяніць гэтыя звычкі? Мы, як у альпінізме, узышлі на такую вяршыню, што я сабе ўжо ўсё даказаў. А даследаванні, праведзеныя тады, дазволілі нам і цяпер актыўна працаваць на фундаментальную навуку і рухацца далей. Зразумейце, мы стварылі новае, і гэта новае сёння прызнана ўсім светам, як нашы аб'ёмныя лазеры на свабодных электронах і многае іншае, што можна расцэньваць, як тэхналагічны прарыў. Нічога са створанага намі для ВПК не прапала дарэмна.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ХУТАРАНІН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

лася для звера ракавой. У гэты дзень у лясной зямлянцы было баляванне.

Колькі было пратаптана ў ваенны час Л. Юрэвічам паляўнічых сцежак, не злічыць. У тым жа 1944 годзе яму споўнілася дзевятнаццаць. Вайна адкатвалася на Захад усё далей і далей ад Налібоцкай пушчы. Мір усяляў у душы людзей надзею на лепшае. На што ж магла спадзявацца ўдава з чатырма дзецьмі, хаця і ўжо з зусім дарослым сынам і дзяўчаткамі-падлеткамі? Аб пераездзе ў вёску гаспадыня нават і не думала. Леанард, бачачы ўпартасць гэтай маленькай і хутка пастарэлай жанчыны, быў пакорнай зброяй у яе руках. Не адзін пасляваенны год яны яшчэ працягвалі жыць у зямлянцы. Толькі ў пачатку 50-х Л. Юрэвіч пабудаваў на старым фундаменце новы дом. З часам сёстры разляцеліся па гарадах і вёсках. Прыйшла пара і самому абзавесціся сям'ёй. А маці так да самых апошніх дзён заставалася вернай захавальніцай рэліквіі дома Юрэвічаў — некалькіх аркушаў, спісаных каліграфічным почыркам з подпісам і пячаткай графаў Тышкевічаў: на валоданне лесам плошчай 60 дзесяцін.

Забраць гаспадарку Юрэвічаў хацелі і ў 60-х гадах. Мясцовыя ўлады патрабавалі ад лесніка перадаць дом на баланс лясгаса. Цяпер адказнасць за лёс хутара ляжала на плячах Леанарда Робертавіча. Жыццё ішло. Не паспеў азірнуцца, а ўжо дзеці сталі дарослымі і пакінулі хутар. Вось тады і прыпомніліся словы маці аб падсечаных каранях.

— На мне, відаць, і скончыцца хутар, — разважаў ён неяк, седзячы на ўзлессі і гледзячы на свае землі збоку. Для ўнукаў гэта глуш. Пагасціўшы ў старых усяго некалькі дзён, спяшюцца ў горад. Размераны сялянскі ўклад жыцця для іх — сум. Ды і калі з дзяцінства не ходзіш з касой і за плугам — гаспадара не выйдзе. З гэтымі горкімі думкамі ён і накіраваўся дадому. Семдзесят тры гады адмераў на сваім вяку Леанард Робертавіч. Але ўсё яшчэ працягвае працаваць. 25 гадоў ён егер у пушчы.

— У свой час быў браканьерам, — жартуе ён. — А цяпер вось берагаю жывёльны свет ад сабе падобных. — І крыху памаўчаўшы, дадаў: — Тады, толькі дзякуючы паляванню, людзі і выжывалі. А гадоў жа 20 назад у пушчы вадзіліся мядзведзі.

Я папрасіў егера расказаць аб якім-небудзь "мядзведжым" выпадку. І заўважыў, як ажывіліся вочы старога паляўнічага. У той час Леанард Робертавіч працаваў леснікам у мясцовым саўгасе. У лесе знайшоў тушу аленя. Хто падстрэліў ляснога прыгажуна, засталося тайнай. Калі ён прыбыў да месца здарэння на сваім штатным матацыкле, аленя і след прастыў. "Сцягнулі", — падумаў ляснік, як раптам пачуў у канаве нейкі рух. Падышоў і аслупянеў. Да матацыкла, у якім засталося ружжо, далёка, а зусім побач мядзведзь сілкуецца. Выратавала паляўнічага толькі тое, што звер быў занадта захоплены абедам.

За ўсю сваю егерскую біяграфію Л. Юрэвіч адстрэліў больш сотні ваўкоў. Даводзілася не раз суправаджаць на паляванне іншаземцаў. Асабліва вялікія аматары лясных баталій — немцы. Цяпер егер прыстаўлены да налібоцкіх зуброў — падкормлівае, сочыць, каб "вольныя людзі" са зброяй не сваволілі. Многа лясных баек расказаў мне Леанард Робертавіч. І пачаставаў хутарскім абедам. Не прынята ў іх сустракаць госця, не пачаставаўшы яго, як гаворыцца, і скваркай, і чаркай. Народ наш тым і славіцца, што і працавіты, і хлебасольны, і вернасць захоўвае ад душы.

**Сяргей САБАДАШ.**

ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ

# ІОСІФ ЯРАШЭВІЧ І ЯГО СПАДЧЫНА

Станаўленне гістарычнай навукі ў нашым краі неразрыўна звязана з дзейнасцю Віленскага універсітэта. Пасля яго закрыцця спынілася і развіццё гістарычнай навукі ў краі на паўдарозе з рамантызму ў пазітывізм, галіной якога была школа гісторыі права. Яна толькі пачала фарміравацца, і ядро яе складалі выкладчыкі універсітэта. Адным з выбітных прадстаўнікоў школы права быў І. Ярашэвіч. Ён быў першым прафесійным гісторыкам культуры балтаў і Вялікага Княства Літоўскага.

Нарадзіўся Іосіф Ярашэвіч 22 студзеня 1793 года ў мястэчку Бельск тады Гродзенскай губерні (цяпер Рэспубліка Польшча, Беластоцкае ваяводства) у сям'і судовага пісара Бенядзікта. У чэрвені 1812 года паспяхова скончыў Беластоцкую гімназію. У Віленскі універсітэт на маральна-палітычны факультэт змог паступіць толькі на наступны год. Адной з лепшых кафедр ва універсітэце была кафедра гісторыі, якую падчас студэнцтва І. Ярашэвіча ўзначальваў Я. Лялевель. Паміж здольным студэнтам і загадчыкам кафедры хутка склаліся добрыя стасункі, якія захаваліся на ўсё жыццё. У гэты ж час біблейскую гісторыю на аддзяленні маральных навук выкладаў прафесар М. Баброўскі, які многа працаваў у Ватыканскай і іншых бібліятэках Еўропы. Менавіта пад іх непасрэдным уплывам І. Ярашэвіч пачаў цікавіцца спачатку гісторыяй права ВКЛ, а пазней заняўся даследаваннем гісторыі нашай зямлі.

За час вучобы ва універсітэце будучы гісторык праявіў сябе як адказны і здольны студэнт ва ўсіх навуках, за што 24 чэрвеня 1812 года атрымаў узнагароду. У тым жа годзе ён вытрымаў экзамены спачатку на кандыдата, а пасля і на магістра права і па прапанове Савета універсітэта заняў пасаду настаўніка рымскага і мясцовага права ў адной з вядучых сярэдніх устаноў Віленскай вучэбнай акругі — Крамянецкім ліцэі (цяпер Цярнопальская вобласць, Украіна). Там І. Ярашэвіч праявіў сябе не толькі як выдатны знаўца гісторыі і права ВКЛ, але і як прагрэсіўны метадыст-творца.

Якраз у гэты час у сувязі са справай філаматаў сцены Віленскага універсітэта пакінулі Я. Лялевель і Я. Даніловіч, што выклікала недахоп кадраў на факультэце маральных і палітычных навук. У такой сітуацыі нельга было не звярнуць увагу на І. Ярашэвіча, які характарызаваўся яшчэ ў той час як "способен и достоин к повышению по службе". Таму ў 1826 годзе Іосіф Бенядзіктавіч быў запрошаны выкладаць права ВКЛ і Польшчы ў Віленскі універсітэт. Хутка з'явілася і яго першая гістарычная праца аб уплыве хрысціянства на цывілізацыю славян. У 1828 годзе рэктар В. Пелікан у сувязі з юбілеем Віленскага універсітэта — 250-годдзем — прапанаваў І. Ярашэвічу зрабіць даклад аб культуры Літвы і значэнні гэтай вышэйшай навучальнай установы ў жыцці краю. У дакладзе прафесар паказаў самабытнасць краю, адрозненне яго як ад Расіі, так і ад Польшчы. Гэта выклікала шырокі рэзананс сярод выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта і прыцягнула ўвагу шырокіх слаёў грамадскасці Вільні.

Пасля закрыцця універсітэта ў 1832 годзе ўлады запатрабавалі ад рэктара даць характарыстыку былым супрацоўнікам гэтай вышэйшай навучальнай установы. У ліку найбольш "неблагонадежных" быў названы і І. Ярашэвіч, які, як пазней адзначаў рускі гісторык М. Каяловіч, "выступаў за жыхароў краю". Такая характарыстыка прывяла да таго, што ён не змог больш займацца выкладчыцкай дзейнасцю. Прапрацаваўшы некалькі год на адміністрацыйнай рабоце ў Вільні, прафесар вярнуўся ў родны Бельск. Астатак жыцця І. Ярашэвіч прысвяціў даследаванню гісторыі роднай зямлі. Аб гэтым сведчаць яго артыкулы ў альманахах "Athenaeum", "Znicz", "Biruta", якія пасля выкарыстаў гісторык пры напісанні сваёй асноўнай працы "Агляд Літвы з пункту гледжання развіцця яе цывілізацыі з найдаўнейшых часоў і да канца XVIII стагоддзя" ў трох тамах. У адрозненне ад іншых твораў па гісторыі ВКЛ, якія з'явіліся ў той час, праца І. Ярашэвіча была напісана з новых метадалагічных пазіцый і таму не страціла сваёй актуальнасці і сёння. Першы том, які аўтар прысвяціў асвятленню побыту балтаў да XIV стагоддзя, з'яўляецца да сённяшняга дня адной з лепшых прац па этнаграфіі гэтых плямён. Аб І. Ярашэвічу як этнографе гаворыць і яго больш позняе даследаванне, якое ён прысвяціў асвятленню жыцця беларусаў Бельскага павета. У 1847 годзе ў альманаху "Athenaeum" з'явіўся яшчэ адзін артыкул "Драгічын. Гістарычны нарыс".

Таксама вядома, што ў гэты час І. Ярашэвіч вёў перапіску з І. Анацэвічам, падтрымліваў адносіны з добрым знаўцам крыніц М. Баброўскім, мясцовым бібліяфілам І.Трамбіцкім.

Унёс свой уклад гісторык і ў станаўленне археалогіі як навукі ў беларуска-літоўскім краі. Ён сумесна з Т. Нарбутам праводзіў раскопкі балцкіх капішчаў на Беласточчыне. Сабраў значную археалагічную калекцыю, якую перад смерцю падарыў створанаму музею ў Вільні. Так, на думку беларускага даследчыка Г. Каханоўскага, "дзякуючы навуковым і папулярызатарскім працам Я. і К. Тышкевічаў, А. Кіркора, У. Сыракомлі, І. Ярашэвіча і іншых даследчыкаў, а таксама дзякуючы іх грамадскай дзейнасці, археалогія зрабіла прыкметны крок да вылучэння з гістарычнай навукі ў самастойную галіну ведаў".

Памёр гісторык у родным Бельску 1 лютага 1860 года. У сувязі з гэтай сумнай падзеяй штотыднёвая газета "Кур'ер віленскі" пісала: "Пастараемся ў будучым даць больш падрабязныя даныя аб жыцці і дзейнасці гэтага славутага мужа. Між тым спынімся цяпер толькі на кароткім намёку, які пакажа, якая гэта хваравітая страта для краю". Аднак абяцанне не было выканана. З-за нейкіх невядомых нам прычын газета краю не паказала ні адной старонкі з жыцця гісторыка Вялікага Княства Літоўскага і яго навуковай спадчыны.

У 1993 годзе адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння І. Ярашэвіча, але і цяпер у айчынным друку гэтай падзеі не было прысвечана нават некалькіх радкоў. Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе такая недарэчнасць выправіцца. І, магчыма, што гэты артыкул з'явіцца дробнай кропляй у гістарыяграфіі, прысвечанай жыццю і творчай спадчыне даследчыка нашага краю прафесара Іосіфа Ярашэвіча.

**Тадэвуш ШАЛАБРЫТ.**

ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

Хутка паявілася на стале вячэра. Павячэраўшы, паляглі мы аддыхаць, але спаць мне не хацелася. Не хацеў, відаць, спаць й гаспадар, бо распачаў ізноў са мной гутарку. Мабыць, хацелася яму выгаварыцца й падзяліцца сваймі думкамі. Што нам, мужыкам, Язэп, дрэнна й цяжка жывецца — ведама, і не варта было б й гаварыць. Гутаркамі аб бядзе, крыўдах і несправядлівасьцях занудзіш ня толькі сябе, але і абкружаючых, бо ўсе нашыя злыбяды атручваюць і бяз таго нашае шэрае жыцьцё. У вечным змаганьні за кусок чорнага хлеба мы робімся пахожымі да скацібавітасьці, а таму, што брыдзіліся займацца разбоямі. Межаў сваей дзяржавы яны сьцераглі, але сьцярагучы свайго, умелі шанаваць й чужое. Што дзяды нашыя зрабілі шмат цяжкіх памылак у мінуўшчыне — рэч бязпярэчная. Люблінская унія прывяла ўнукаў у няволю. Але гэтую гістарычную памылку нельга называць праступленьнням або здрадай свайго народу. Дзякуючы цяжкое канешнасьці змушаны былі пайсьці на палітычную лучнасьць з палякамі, хаця — як гісторыя сьведчыць — прадчувалі і прадбачылі, што з пачаткам вуніі пачнецца канец незалежнага нас у бок Варшавы й Масквы, не забываймася й аб этычна-маральнай старане нашага прыватнага жыцьця, бо ворагі нашыя, якія сочаць за намі — пастараюцца выкарыстаць кожную нашую правіннасьць і блуд. Вось аб чым павінны мы цьвёрда памятаць. Кладучыся спаць і ўстаючы. А каб правадзіць гэтыя запавядзі ў жыцьцё, дык не патрэбна кідаць сахі і бараны. Пры арбе і касьбе, у дарозе ці на начлезе трэ" пашыраць гэтыя запавядзі. І не зважайма на тых, якія дзеля сваей нясведамасьці або дурасьці будуць сьмяяцца або наругацца. Прывыкнуць й

**Антон ПАДДУБІЧ**

# З МАІХ ВАНДРОВАК ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

ны. Трацiма адзнакі людзей, бо нам хочыцца есьці й толькі есьці. Слухаема позываў сваіх чарэваў, якія часта корчацца ад голаду і грызуць нас, каб хутчэй заспакайвалі голад. А мы кідаема гэтым чарэвам хлеб з мякінай, бульбу, каб іх хоць на кароткі час супакоіць. Бруха не даець часу заняцца нашымі душамі й мазгамі. І гэтак з пакаленьня ў пакаленьне. Змагаецца з брухам бацька, перадаець гэтае змаганьне — як сьцяг — свайму сыну. Гэтае абрыдлівае змаганьне завецца нашым мужыцкім жыцьцём — нядоляй, якую найбалючай церпіма мы, беларусы. Ці ж варта было сяліцца, — выгаварваў Язэп, — нашым прадзедам у гэтых лясох, барох, сярод балотаў й дрыгвы? Ці і даўней нашыя дзяды былі апошнімі сярод славянаў, што змусілі іх змагацца са звяр'ём і камарамі? А калі па добрай волі яны занімалі і сяліліся на абшарах нашае цяперашняе Бацькаўшчыны, дык маглі ж пасьля агледзіцца, што іхным унукам будзе дрэнна жыцца. Маглі б і яны выпярці сваіх суседаў з лепшых абшараў, як выперalі нераз нашых дзядоў крапчэйшыя пабратымцы — другія славянскія плямёны. Відаць, што й дзяды нашыя былі слабыя, як і іхныя ўнукі, калі не маглі і няўмелі забяспечыць лепшае будучыні. Толькі і ведама нам, што блізу на працягу цэлае гісторыі абіралі й абдзіралі нашыя землі, што блізу заўсягды знаходзіліся мы ў нечае залежнасьці, ад ласкі і ня ласкі. І перадалося па наследству: гібеў дзед — гібее й унук.

— Я разумею твой настрой, дзякуючы якому ты малюеш нашу мінуўшчыну ў чорных фарбах. Не забывайся, што гісторыя бязпярэчна цьвердзіць і аб іншым, — спыніў я Язэпа. — Не забывайся, што былі часы, калі нашая Бацькаўшчына цьвіла і была шчасьліва. Княства Полацкае шмат гаворыць аб тым, што дзяды нашыя ня былі такія слабыя, якімі табе выдаюцца. Што ўмелі яны ня толькі клапаціцца аб дабрабыце сваіх грамадзян, але й мудра пашыралі межы свайго княжства. Калі на нас нападалі суседзі, дык не дзеля таго, што нашыя дзяды слабыя, а галоўным чынам дзеля таго, што ласа глядзелі на нашыя землі, што гэтыя землі былі ім сольлю ў вока. А калі нашыя продкі не займаліся разбоямі на суседзяў, як рабілі гэта нашыя славянскія пабратымцы, дык не дзеля слабытаваньня Бацькаўшчыны. Ня мелі, аднак, ані сілы, ані спосабаў, каб не дапусьціць да гэтага страшнага гістарычнага нешчасьця. Дый ці ведаема мы дакладна нашую мінуўшчыну. Чужынцы пастараліся зацёрці сьляды аб нашым слаўным і ўмеюць толькі вытыкаць нам нашую слабасьць й няздольнасьць да незалежнага жыцьця. Але ж калі й рабілі нашыя продкі памылкі, дык не дзеля таго, каб мы іх паўтаралі. Ты кажыш, што жывот не даець часу падумаць аб душы й галаве. Не зусім гэта так. Праўда, што клопаты аб жываце забіраюць у нас шмат часу, але пры ахвоце найдзецца ў кожнага з нас часу, каб падумаць — як ты кажаш — аб душы і мазгох. А ці не найшлі мы цяперка з табою часу, каб пагаварыць і парушыць паважныя тэмы, закрануць самае балючае, што абходзе сёньня кожнага беларуса — аб долі. Нашае Бацькаўшчыны. Але калі мы будзем толькі плакаць і наракаць, а нічога ня будзема рабіць, каб ратаваць нашую зямельку, якая апынулася ў бядзе і няшчасьці, дык нічога не дарадзіма. Баючыся шпікоў-"лаўцоў", розных прахадзімцаў — самі павялічваема страх. Трэ" змагацца й трэ" варушыцца й варушыць другіх. Ня могуць нас так усіх запужаць і задушыць, каб — як ты кажыш — і пікнуць не маглі, бо ня хопіць на гэта сродкаў. Цябе, як і тысячы другіх нашых змагароў, не спужаюць астрогамі і ня здолеюць задушыць любові да беларускага Народу і змаганьня за самастойнасьць Беларусі.

— Дык што рабіць і з чаго пачаць? — саскочыўшы з пасьцелі, запытаўся Язэп.

— Перш за ўсё, супакойся. Ня мне даваць табе раду, што рабіць, бо ты, як сьведамы беларус, сам павінен памятваць аб сваіх абавязках, а абавязкі ж, па-мойму, нашы такія: выгадоўліваць нашых дзетак на сьведамых й чэсных грамадзян Беларусі; усюды падкрэсліваць, што мы беларусы, а дзеля гэтага трэ" гаварыць па-беларуску ня толькі ў сваей вёсцы ці мястэчку, але й у месьце і ў урадавых установах, мусіма ўсьведамляць нашых нясьведамых суседзяў; мусіма падтрымліваць свае нацыянальныя арганізацыі і свае часопісі, якія бароняць наш Народ і змагаюцца за лепшую будучыню нашае Бацькаўшчыны; мусіма ўцяміць як сабе, так і другім, што мы тутака адвечныя гаспадары і палепшаньне нашае долі залежыць ад нас саміх; бярогмася ад лжэ-прыяцеляў, якія цягнуць пераканаюцца, што працуема не дзеля асабістых карысьцяў, а толькі спаўняема свой нацыянальны абавязак.

Ужо пачало днець. Мне пара было ў дарогу, а Язэпу — брацца за гаспадарку. Падзякаваўшы майму прыяцелю за начлег й пачастунак, падаўся я далей. Не адышоўшы ад К і трох вёрстаў, як наганяець мяне ягомасьць у паліцэйскае вопратцы і крычыць "stoj!". Але я — быццам нічога не чуючы — йду далей. Не вялікі пан, — думаю сабе, — дагоніць, бо ён на ровары, а я пехатны. Параўняўшыся са мною, ягомасьць камандуець: "Stac' i nie ruszac' sie! Skad idziecie i poco wloczycie sie po wsiach? Macie dokumenta?" (Стаяць і не рухацца! Адкуль ідзяце і чаго цягаецеся па вёсках? Дакументы маеце? — **Я. К.**) — грозна пытаецца. Скуль іду і чаго валачуся па вёсках — гэта мая асабістая справа, — адказваю абураны. — І перш, чым паказваць свае дакументы першаму лепшаму на дарозе, мушу ведаць, хто іх ад мяне патрабуець. Што пан у паліцэйскім мундзіры, мяне мала абходзіць, мушу з панскага дакументу пераканацца, што пан ёсьць паліцыянтам, а тагды пакажу й свае "dowody" (дакументы. — **Я. К.**).

Нехаця і са злосьцю паказвае мне сваю "legitymacju" (пасведчанне. — **Я. К.**), тагды й я паказаў свой "пашпарт".

— Ale po co pan (ага, ужо "пан"!) zachodził do I. M. i dokad pan idzie? (Але чаго пан заходзіў да І. М. і куды пан ідзе?).

— Прыпадкам трапіў да Язэпа М. і ў яго пераначаваў, а йду туды, куды мне трэба — і павярнуўшыся крута — пайшоў далей. Ну, — думаю, — калі гэтак кожны дзень мяне пачнуць "legitymowac" (правяраць дакументы), дык нядоўга я павандрую. І Язэпу нарабіў прыкрасьцяў: цяперка будуць пытацца — хто, чаго і г. д.

Пагода дрэнная. Маросіць дождж. Дарога размокла, боты клеюцца й гразнуць. Направа й налева ад дарогі цягнуцца вузенькія сялянскія палоскі — шнуркі. Ёсьць такія вузенькія, што астанаўліваюся й пачынаю іх мерыць шагамі. Найшырэйшы мае дванаццаць шаноў — гэта ўжо "кулацкі" шнур, а найвузейшы — два (так, так — два!) — гэты мог бы быць залічаны да "сераднякоў". Два шагі! Гэта ж й забаранаваць нельга, а як жа гэткі шнур засеяць? Багат наш беларускі сялянін — няма чаго. Не дарма напёрлі да нас столькі польскіх асаднікаў.

Працяг. Пачатак у № 32.

## ХУТКА Ў ШКОЛУ







**Пакуль школьнікі адпачываюць, умацоўваюць здароўе, дарослыя будуюць і рамантуюць для іх памяшканні, выдаюць вучэбныя дапаможнікі, друкуюць кнігі, словам, рыхтуюць свята 1 верасня. Калектыў Мінскага паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа, як заўсёды, узяў на сябе асноўную нагрузку па выпуску школьных падручнікаў каля ста назваў: 73 ужо выпушчаны, яшчэ 25 трэба будзе асвоіць у жніўні. Друкары ўпэўнены, што заказы выдавецтваў "Вышэйшая школа", "Народная асвета", "Аскар" і іншых выканаюць своечасова, галоўная ўвага ўдзяляецца павышэнню якасці прадукцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: падручнікі, што выпускаюцца Мінскім паліграфічным камбінатам імя Я. Коласа; канчатковы вынік працы паліграфістаў першыя ацэньваюць пераплётчыкі (злева направа) Ала ГАВАКА, Анатоль ЛУТОВІЧ і Валянціна РАМАХОВІЧ.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

## ПОСТАЦІ КУЛЬТУРНАГА ПАМЕЖЖА

# НІЗКІ ПАКЛОН АЛЯКСАНДРУ ВАЛО

У № 12 за 1997 год "Кантактаў і дыялогаў" мы прачыталі сумную вестку пра смерць Аляксандра Вало, — і адразу нагадалася сустрэча з ім у Фінляндыі ў 1988 годзе. Сустрэча гэтая была такой нечаканай і выпадковай, што пачынаеш верыць у лёс, у тое, што ўсе нашы рухі і дзеі недзе, некім прадугледжваюцца і кіруюцца.

Было гэта ўлетку 1988 года. Мы з Вітаўтам прыехалі ў Фінляндыю для азнаямлення з беларускай перыядычнай літаратурай канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, бо Хельсінкаўская бібліятэка была адной з тых, куды прысылаліся ўсе выданні, што друкаваліся ў былой Расейскай імперыі.

Вось жа сядзім мы ў Славянскім аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі, абкладзеныя беларускімі часопісамі і газетамі, і чуем далікатнае пытанне: "Вы размаўляеце па-беларуску?" Паднімаем ад газетаў вочы і бачым незнаёмага, пажылога ўжо, вельмі прыстойнага, прыемнага чалавека. Разгаварыліся. Пазнаёміліся. Праўда, пра Вало мы раней чулі, што ён недзе ў Швецыі жыве, аднак ніколі ў думках не было, што некалі спаткаемся з ім у Хельсінкі, у бібліятэцы, куды ён заскочыў толькі на хвілінку, бо меў спатканне з калегай па працы.

Расказаў крыху пра сябе, пра беларускае мастацтва, але не меў часу і запрасіў нас на наступны дзень да сябе.

Жыў ён у Гамэліна, якіх 50 кіламетраў на поўнач ад Хельсінкі. Хоць не было гэта ў нашых планах, аднак не маглі адмовіцца і назаўтра рана — у Гамэліна. Гэта невялікі стары горад, дзе, між іншага, як нам сказаў Вало, нарадзіўся кампазітар Сібеліус.

Знайшлі хутка яго кватэру. Вало — асоба вельмі метадычная, дакладная — даў добрыя інструкцыі. Спаткаў нас вельмі сардэчна. Нават ранічкай схадзіў на рынак купіць васількі. "Беларусы любяць васількі", — з усмешкай сказаў ён. Пачаставаў нас фруктамі — быў ён вегетарыянцам.

Расказаў пра сябе, сваё жыццё, сваё новае зацікаўленне, працу ў EL PO — арганізацыі дзеля экалагічнай адказнасці, паляпшэння жыцця. Пра ўсё гэта вельмі добра напісала сп-ня Людміла Налівайка ў некралогу, дык тут няма патрэбы паўтарацца. Хочацца дадаць толькі некаторыя дэталі.

Вало лічыў, што найбольш плённы і працавіты адрэзак яго жыцця прайшоў у Беларусі. Тут ён заснаваў і быў старшынёй мастацкага таварыства "Прамень", быў у Камітэце ўзбуйнення Беларусі, ілюстраваў выданні Купалы і Коласа, працаваў у Інбелкульце, быў у Конкурснай камісіі мастацкага афармлення зборніка "400-годдзе беларускага друку" — быў цалкам звязаны з беларускім жыццём 20-х гадоў. Але хутка пачаліся і крытыка на яго, і арышты яго сяброў, таму Вало ў канцы 1930 года выехаў у Маскву, а адтуль, як ён сказаў, "Сталін выгнаў з Савецкага Саюза **як фіна**". І якая іронія: у час фінска-савецкай вайны 1939—1940 гадоў, Зімовай вайны, як фіны яе называюць, ён быў інтэрніраваны як **жыхар Савецкага Саюза.**

У часе яго побыту ў Швецыі ён спаткаўся і пазнаёміўся з беларускімі эмігрантамі і меў беларускія выставы.

Паказаў ён нам і свой дзіцячы, ім ілюстраваны, дзённік, які ён пачаў запаўняць ад сямі гадоў і перавозіў, і захаваў. Першы том дзённіка меў выходзіць у верасні 1988 года. Ён вельмі ганарыўся гэтай кніжкай.

Павёў нас ён у сваю студыю, якая знаходзілася ў музеі пры універсітэце. Паказаў нам карціны, якія былі выстаўлены ў Адэсе ў траўні-чэрвені таго ж года. Крыўдаваў на Менск, што там не ўдалося наладзіць выставу. "Мой родны Менск, — як ён казаў, — не захацеў зрабіць мне выставу". Аднак у Адэсе ён меў 40 карцін на беларускія тэмы. Наогул у яго карцінах беларуская тэматыка пераважае і прасочваецца праз усю яго творчасць, нават там, дзе і не спадзяешся. Прыкладам: велізарнае палатно, якое ён намаляваў асаблівымі фарбамі па рэцэпту III стагоддзя ў 1949 годзе ў Мальмо, у Швецыі. Называецца карціна "Кветка жыцця" і сімвалізуе культурны і навуковы рух ва ўсім свеце. На самым першым, вядучым месцы ідзе-маршыруе беларус у нацыянальнай кашулі.

Важна тут зазначыць, што карціны свае ён усе сістэматычна ўлічваў і парадкава нумараваў. Беларускія малюнкі канчаюцца нумарам 3 900, а ўсіх карцін да 1988 года было каля 9 300. Адна з апошніх тады, пад нумарам 9 293, была "Хрыстос і зло, якое пашыраецца ў свеце".

Падараваў ён нам свой лінарыт (пад нумарам 3 872) 1930 года, з менскага перыяду "Ранішняя гімнастыка ў студыі мастака". Мадэль — яго жонка Алена Ніканові, якая была ўзорам да шмат якіх яго абразоў. Абраз гэты мы будзем шанаваць і перахоўваць.

Праводзіў нас Вало на цягнік. Ішлі павольна, размаўлялі, дык на цягнік спазніліся і мелі даволі шмат часу да наступнага. Расказаў нам яшчэ шмат аб сабе, між іншага, адну дэталь: да конкурсу Скарыны ў 1924 годзе ён зрабіў малюнак, які, аднак, не быў прыняты. Ён яшчэ яго недзе меў у сваіх архівах — абяцаў знайсці.

Так, надзіва, мы добра сышліся — толькі ўчора пазнаёміліся, а развіталіся як старыя знаёмыя.

На развітанне ён нават праслязіўся, а як селі ўжо ў цягнік і яго ўбачыла — старэнькага, сіва-белага, мілага, які нас усё яшчэ выглядаў з перона, — праслязілася і я.

Вось гэта наша сустрэча з Алесем Вало прыпомнілася, і хочацца гэтую жменьку ўспамінаў ускласці як вянок на яго магілу.

**Зора КІПЕЛЬ.**

Нью-Йорк.
**("Кантакты і дыялогі" №6).**

# ЗАПРАШАЕМ У СТАРАДАЎНЮЮ ВІЛЬНЮ

Восьмы год у Віленскім педагагічным універсітэце на факультэце славістыкі працуе кафедра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. У сістэме беларускай адукацыі ў Літве яна займае цэнтральнае месца і на сёння з'яўляецца навукова-метадычным цэнтрам, які мае сталыя кантакты з шэрагам навучальных устаноў, грамадскіх арганізацый Літвы, Беларусі і іншых краін. Найбольш цеснае супрацоўніцтва наладжана з Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка, Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф. Скарыны, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Варшаўскім (Польшча) і Клагенфурцкім (Аўстрыя) універсітэтамі, даследчым Інстытутам гуманітарных навук у Нью-Йорку (ЗША) і інш.

Акрамя асноўнага накірунку сваёй дзейнасці — падрыхтоўкі спецыялістаў для беларускіх навучальных устаноў Літвы — кафедра актыўна распрацоўвае навучальныя праграмы і метадычныя дапаможнікі, арганізоўвае міжнародныя навуковыя канферэнцыі, удзельнічае ў распрацоўцы міждзяржаўных пагадненняў у галіне адукацыі, займаецца навуковымі даследаваннямі памежнага рэгіёна.

Сёлета факультэт славістыкі дае жыхарам Беларусі унікальную магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці беларуская філалогія за мяжой — у адной з самых прэстыжных ВНУ Літвы — Віленскім педагагічным універсітэце. Тэрмін навучання — 4 гады. Акрамя названай спецыяльнасці, студэнты змогуць выбраць дадаткова яшчэ адну: руская філалогія, польская філалогія, журналістыка, методыка пачатковага навучання, гісторыя культуры (5 гадоў).

Навучанне завочнае платнае. Набор будзе ажыццяўляцца без уступных экзаменаў. На тэрыторыі Беларусі дыплом мае юрыдычную сілу.

Падчас вучобы студэнты змогуць атрымаць ільготныя візы, працаваць у выдатных архівах і бібліятэках Літвы, пазнаёміцца з мовай і культурай народа-суседа, прыняць удзел у культурным жыцці беларускай дыяспары. Можна будзе таксама паспрабаваць свае сілы ў беларускіх праграмах радыё і тэлебачання, газетах Літвы. Урэшце — паблукаць па старажытнай Вільні і палюбавацца на славутыя цэрквы і касцёлы, спазнаць яе беларускія старонкі, а, значыць, і ўласную культуру і гісторыю.

А галоўнае — паслухаць лекцыі вядучых навукоўцаў-гуманітарыяў, сустрэцца з вядомымі культурнымі дзеячамі Літвы, Беларусі і замежжа.

За больш падрабязнай інфармацыяй запрашаем звяртацца непасрэдна да прыёмнай камісіі па тэлефоне ў Баранавічах 8-01634-70503, у Вільні — 8-103702—725801, 731841.

**Лілія ПЛЫГАЎКА,**
**заг. кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры ВПУ, доктар філалогіі член-карэспандэнт МАН.**

**ВІЛЕНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ**

**з Беларусі і іншых краін па конкурсу атэстатаў набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі па спецыяльнасцях:**
* беларуская мова і журналістыка
* беларуская і руская мова і літаратура
* беларуская мова і літаратура і гісторыя культуры
* беларуская мова і методыка пачатковага навучання

**Навучанне платнае.**
**Форма навучання: завочнае (5 г.).**
**Прыём дакументаў — да 1.09.98 г.**

1. Атэстат (копія) альбо дыплом вышэйшай школы (выпіска).
2. Медыцынская даведка.
3. 4 фотакарткі (3х4).
4. Выпіска з працоўнай кніжкі (калі ёсць).
5. Заява на імя рэктара.

**Дакументы можна высылаць на адрас:**
**Baltarusiu kalbos, literaturos bei etnokulturos katedra**
**Vilniaus pedagoginis universitetas**
**Studentu g. 39-527**
**2034 Vilnius LIETUVA**
**тэл.: (8-0122)725801, (8-0122)731841**
**тэл. у Баранавічах — 8-01634-70503**

## 1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# САМАЯ ГАРМАНІЧНАЯ

Набліжаецца Міцкевічаў юбілей. Ці ёсць яшчэ сказаць штось новае пра вялікага песняра свету з гэтай нагоды? Здаецца, усё пра яго ўжо сказана, перасказана. Застаецца толькі перачытаць, перагартаць ды пасмакаваць ім і пра яго напісанае. І ўсё ж адно пытанне не дае спакою беларусам, смыліць незагойнаю ранаю. Гэта мова, наша мова! Увесь свет ведае, што сказаў Адам Міцкевіч пра нашу мову. А сказаў ён пра яе вось што: "З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іхніх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала. Толькі Літоўскі Статут напісаны іхняй мовай, самай гарманічнай, з усіх славянскіх моў найменш зьмененай.

На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек, гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У час незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі...»



«...На беларускай мове гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана.»

А. Міцкевіч

Ці трэба казаць, якое гэта высокапатрыятычнае выказванне! Колькі ў ім годнасці, гонару, інфармацыі! Гэта нібыта зародак ці выток Багушэвічавай прадмовы да яго славутай "Дудкі Беларускай".

Але, прачытаўшы такое высокапатрыятычнае Міцкевічава выказванне, міжволі задумаешся, мусіш задумацца: "А чаму ж тады Адам Міцкевіч не ўзяўся тварыць на гэтай "самай гарманічнай" гаворцы, так высока ацаніўшы яе? Што яму замінала стацца першым вялікім беларускім паэтам мінулага стагоддзя? Наша бездзяржаўе? Наша безгалоўе? Адсутнасць беларускага друку, беларускай школы? Беларускага чытача?

Пэўна, што так. Але мову ён нашу ведаў. І не проста ведаў, а ведаў дасканала. І жывую. Жывую мову ведаў з малых гадоў. І старую літаратурную. Іначай скуль у яго ўзялася б такая пераканаўчая выснова пра нашу мову? Толькі з ведаў, з глыбокага спазнання.

Ёсць нават звесткі, што ён пісаў на беларускай мове. Былі ў яго і беларускамоўныя вершы. Але нашы "дабрадзеі" з суседняй краіны так пастараліся, так паклапаціліся, каб гэтыя вершы зніклі з Міцкевічавых архіваў назаўсёды, каб там не было ніякага беларускага следу. Каб нішто не нагадвала пра яго беларускі выток, пра яго прыналежнасць да Беларусі. І ўсё ж такі след застаўся. Ды не проста след. А цэлая баразна, цэлы разрыхлены загон. Гэтым загонам якраз і з'яўляецца згаданае тут выказванне пра беларускую мову. Яго вынішчыць не было аніякай мажлівасці, бо яно было абнародавана Міцкевічам у ягоных лекцыях па славянскіх літаратурах, якія ён чытаў у 1841—1844 гадах у Парыжскім каледжы.

Дзеля чаго ён зрабіў такое абагульненне, такую выснову? Пэўна, не толькі дзеля навуковай інфармацыі, але і каб зацікавіць беларускаю моваю, беларускім народам сваіх слухачоў дый і цэлы свет, каб засяродзіць увагу і саміх беларусаў на іхняй спадчыне. І яму гэта ўдалося. Па-беларуску пісалі ўжо многія ягоныя сучаснікі. Сярод іх адзін з самых блізкіх ягоных прыяцеляў Ян Чачот. Ён і павіншаваў аднойчы Адама Міцкевіча па-беларуску на яго народзінах вершам "Едзе міленькі Адам". І яшчэ адзін Міцкевічаў сябра хварэў на беларушчыну. Гэта Тамаш Зан. То ці мог Міцкевіч быць нейкім іншым, чым ягоныя сябры? Беларушчына якраз і збліжала іх. Яны ж усе з малых гадоў дыхалі беларушчынай, як паветрам. Беларускі фальклор чараваў іхнія душы. І што яшчэ надзвычай важнае ў выказванні Адама Міцкевіча, дык гэта ягонае азначэнне, што наша мова ўзнікла даўно. Ягоныя думкі пра нашу мову паралізоўвалі ўсе афіцыйныя версіі і трактоўкі, разбуралі іх, расхіствалі. Яны тарочылі, пракладвалі ёй шлях на будучыню, былі выдатнай падмогаю ўсім наступным пакаленням беларусаў у іхніх развагах пра лёс Бацькаўшчыны, асабістым выбары жыццёвых шляхоў-пуцявінаў.

Прыкладам, Дуніну-Марцінкевічу, які адзін з першых зрабіў пераклад Міцкевічавай паэмы "Пан Тадэвуш", гэтым самым здзейсніў даўнюю мрою самога Міцкевіча, які марыў, каб ягоныя кнігі, апранутыя ў мужыцкую сярмягу, патрапілі пад стрэхі сялянскіх хатаў. Пад мужыцкай сярмягай разумелася мова беларускага люду. Толькі праз сваю мову беларускі люд мог спазнаць Міцкевічавы творы. Гэта выдатна разумеў і сам Адам Міцкевіч. Разумець то разумеў, а пісаў усё ж па-польску. Праўда, у ягоных польскамоўных творах страчаецца шмат беларусізмаў. За гэта Міцкевіча не раз дакаралі польскія патрыёты, шанавальнікі чысціні польскай мовы. Але дакоры гэтыя былі несправядлівыя. Калі Міцкевіч схіляўся над аркушам чыстай паперы, яму часта чуліся галасы люду любай яму Літвы. А галасы гэтыя былі якраз не польскія, а беларускія, і ён мусіў гвалціць іхнія галасы ў польскамоўнае рэчышча. Але каб ужо зусім не нівеліраваць беларушчыну, пакідаў гэтым галасам хоць які беларускі след...

Паэтычная спадчына Адама Міцкевіча, ягонае выказванне пра беларускую мову зрабілі вельмі вялікі ўплыў і на іншых беларускіх дзеячаў — на Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... Кожны з іх адчуў на сабе жыватвор Міцкевічавых разваг. Кожны з іх лічыў Адама Міцкевіча сваім паэтам.

У беларускай зямлі ўсе карані Адама Міцкевіча. З беларусаў паходзіць увесь род Міцкевічаў. Тут, на Беларусі, нарадзіліся і жылі яго бацькі. Тут, на хутары Завоссе, 24 снежня 1798 года ўбачыў свет і сам Адам Міцкевіч.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Адам Міцкевіч. Афорт. Мастак Яўген ЦІХАНОВІЧ; гмах каледжа ў Парыжы, у якім Адам Міцкевіч, чытаючы лекцыі па славянскіх літаратурах, высока і годна адгукнуўся і пра беларускую мову.**



## ПІСЬМЫ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА ДА МАКСІМА ТАНКА

# «ПРЫНОШУ РАДАСЦЬ ІНШЫМ...»

**Роўна тры гады прамінула пасля назаўсёднага адыходу ад нас выдатнага беларускага паэта, аднаго з духоўных водцаў нацыі Максіма Танка. Яго жыццё і творчая дзейнасць былі надзвычайна багатымі, зместавa насычанымі і шматстайнымі, у той ці іншай ступені яны мелі дачыненне да ўсіх вызначальных і адметных змен і зрухаў у гісторыі беларускага народа XX стагоддзя. Паэт актыўна спрычыніўся да нацыянальна-вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі, працаваў там інструктарам ЦК камсамола, прайшоў ахвярнымі вогненна-халепнымі дарогамі ваеннага ліхалецця. Дзейснымі і выніковымі для яго і ўсёй нашай літаратуры былі пасляваенныя дзесяцігоддзі, якія напоўніцу раскрылі паэзіятворчы талент мастака. Працуючы галоўным рэдактарам часопіса "Полымя", старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, з'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і СССР, старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі, ён своеасабліва каардынаваў усё нацыянальнае літаратурна-творчае жыццё, дынамізаваў ідэйна-мастацкія пошукі.**

**Максім Танк падтрымліваў цесныя сувязі з чытачамі, добра ведаўся з многімі знакамітымі людзьмі (прычым, не толькі ў Беларусі і былым Савецкім Саюзе) — пісьменнікамі, грамадска-культурнымі дзеячамі, палітыкамі... Цягам дзесяцігоддзяў варункавыя абставіны зводзілі яго з асобамі, якія пасля былі раскіданы па ўсім свеце. Да самых жыццёвых змрокаў паэт цікавіўся іх лёсам, кантактаваў з імі, ліставаўся і інш.**

**Нядаўна, працуючы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, давялося натрапіць на лісты да народнага паэта выдатнага беларускага спевака і педагога Міхася Забэйды-Суміцкага, які ўсё сваё пасляваеннае жыццё пражыў у Празе. Яны сведчаць пра высокую духоўна-светапоглядную супольнасць і падкрэсленую шчырадушнасць самаадносін двух маэстра, раскрываюць новыя характарыстычныя грані іх чалавечых і творчых індывідуальнасцей, з'яўляюцца ўдзячным матэрыялам у асэнсаванні некаторых аспектаў гісторыі нацыянальнага мастацтва.**

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**загадчык кафедры беларускай літаратуры**
**Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы.**

*Прага, 15.5.1962.*

Дарагі Яўгеній Іванавіч!

З Мінска мне напісалі, што Ты ў Карлавых Варах адпачываеш і што апублікаваны Указ аб узнагароджанні Цябе ордэнам Леніна ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем Савецкага друку. Прасілі перадаць Табе гарачыя віншаванні, што з радасцю раблю за іх і за сябе.

Як доўга будзеш у К. В? Як сябе адчуваеш? Ці не магу быць Табе карысным? Ці не патрабуеш што з Прагі? Ці не хочаш у Празе затрымацца даўжэй? Напішы мне, зраблю ўсё, што змагу. Лічы мой "кут" сваім (і ўсё, што ў ім), калі захочаш быць маім госцем. Мо хочаш, каб да Цябе прыехаў у К. В., скажам, у нядзелю 20 ці 27 мая? (Магу і ў іншы дзень.)

Чакаю адказу, а пакуль што жадаю Табе і жонцы, калі яна з Табою, усяго ўсяго найлепшага.

Шчыра Твой **М. Забэйда.**

**P. S.** Можаш мне затэлефанаваць (найлепш каля 18 гадзін).

Мой № 52565

**"Не знаю, калі я паспеў пастарэць,**
**Расстацца з юнацкімі марамі,**
**Амаль развучыўся смяяцца і пець,**
**Узброіў свой нос акулярамі..."**

*Прага, 5.I.1963.*

**"...І ён успомніў свой край марозны**
**і, як па матцы дзіцё, заплакаў".**

Дарагі, харошы Максіме!

Калі я спяваў у Мінску на канцэрце, арганізаваным нашымі пісьменнікамі, дык, між іншым, сказаў, што многім забавязаны нашым пісьменнікам. Вось і цяпер яны, і ў першым радзе Ты, мяне моцна маральна падтрымліваюць. То кнігу прышлюць, то верш напішуць... А Твае пісьмы — гэта лепшае для мяне лякарства. Бо розных парашкоў ды пілюлек і ў нас даволі. Ды наогул лекаванне тут пастаўлена вельмі добра. Але "зуб часу" робіць сваё. І ўсё ж я, пакуль што, не здаюся: хачу вясной зноў паспяваць на Радзіме. Гатоўлю новы рэпертуар. Трэба толькі, каб Мінск у час звярнуўся ў Госконцерт у Маскве па дазвол. Без запросін з Госконцерта наш Прагаканцэрт не зможа мяне да Вас паслаць, а калі б я сам паехаў, дык не змог бы там спяваць, бо гэта дзяржаўныя (манапольныя) арганізацыі (установы). Спадзяюся, што ў Мінску нехта што трэба робіць (так мы перад маім ад'ездам дагаварыліся). Але буду Табе ўдзячны, калі знойдзеш час і зацікавішся гэтаю справаю бліжэй. Ведаю толькі, што пры добрай арганізацыі мае паўторныя выступленні мелі б яшчэ большы поспех, і арганізатары маглі б на гэтым зарабіць. Памятаю, у Віцебску на канцэрце слухачы чакалі больш паўгадзіны каля аўтобуса, у якім мяне адвозілі да гатэлю, і сказалі, што калі б раней было вядома, хто да іх прыехаў, дык зал не памясціў бы ўсіх, хто хацеў бы паслухаць свае песні. І ў іншых гарадах казалі, што плакаты былі расклеены вельмі позна і было іх мала. Апрача таго, плакаты былі вельмі агульныя: па іх не можна было дагадацца, што (якога кампазытара) на канцэрце пачуеш. На 11 выступленняў ні адна друкаваная праграма! Гэта ўсё не трудна злепшыць, таму аб гэтым і пішу. Галоўнае, аднак, у час прысланць у Прагаканцэрт запросіны, бо пры першым падарожжы апрача загранічнага пашпарта, які прыпадкова ўзяў раней, на руках не меў нічога. І калі б у Мінску нам не выйшлі насустрач, дык мы з Кожынам не ведалі б, што і рабіць. І ўсё ж успаміны аб гэтым падарожжы ў нас са Здэнькам такія, што мы хацелі б гэта падарожжа паўтарыць. Добра было б выступіць і ў Вільнюсе. Адтуль мне напісалі, што многія, слухаючы расказ аб тым, як было ў Мінску, плакалі, што не маглі пачуць сваіх песень.

Трэба было б наспяваць і новыя грампласцінкі, бо ранейшыя ўсе распрададзены. І гэту справу трэба рабіць цераз Госконцерт у Маскве. Без дазволу адтуль, здаецца, няможна і па Мінскім радыё выступіць. (Можа, памыляюся?!.)

Мушу сказаць, што пасля выступленняў на Беларусі шмат хто перастаў думаць, што Мінск — гэта правінцыя. Адным словам, мне здаецца, што пакуль яшчэ спяваю, гэтыя выступленні трэба паўтарыць. А кончу Тваім прыгожым жаданнем: "Так хацелася б, каб у гэтым новым годзе больш у нас было харошых сяброўскіх сустрэч, каб усе былі жывы, здаровы, каб яшчэ больш нарадзілася харошых песень, больш было радасных дзей у жыцці". Ад сябе яшчэ дадам: каб Твае вершы трапілі ў сэрцы тых, для каго Ты пішаш. Каб рабілі людзей лепшымі!

Шлю ўсім сябрам сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні. (Любоў Андрэеўне асобна!)

Твой удзячны Міхась Забэйда.

**P. S.** Аб рамане "Людзі на балоце" чуў, але не чытаў, бо тут яго няма. Мо патрабуеш што з Прагі? Толькі напішы — рад. прышлю.

**М. З.**

*2.2.1964.*

Дарагі, мілы дружа, Максіме!

Пішу Табе яшчэ з бальніцы, але з надзеяй, што адгэтуль выйду. (Пару дзён таму назад думаў, што вынясуць.) Аперацыя адбылася 5.1. г.г. Рабіў сам кіраўнік, дацэнт доктар Пачэс. Але пасля аперацыі насталі розныя камплікацыі. Дагэтуль не маю нармальнай тэмпературы. Аднак адчуваю сябе ўжо лепш і вясной думаю спяваць. Калі захочаце, дык і да Вас прыеду. Прыемнай неспадзяванкай было тое, што да мяне, адзінокага, у дні адведзін прыходзіла столькі людзей, што не толькі я, але і іншыя пацыенты дзівіліся. І толькі за песні!.. Перадай, калі ласка, усім сябрам вялікую падзяку за іх шчырыя словы спагады ў маім няшчасці. Памаленьку буду ім адказваць. А цяпер жадаю Табе, Тваёй сям'і і супольным знаёмым многа-многа шчасця.

Абдымаю.

Твой **Міхась Забэйда.**

**(Працяг будзе).**

# КОЛАС НА ПУХАЎШЧЫНЕ

**Мінулі леташнія юбілеі слынных песняроў зямлі беларускай — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Шкада, але 115-я ўгодкі класікаў айчыннай літаратуры не сталі падзеямі агульнадзяржаўнай значнасці. Вось і падрыхтоўка да святкавання 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча набывае на Беларусі маштабнасць. Хаця можна і паспрачацца: маўляў 200 — гэта зусім не 115 гадоў... Ды і Міцкевіч... І ўсё ж Купала, Колас — тое сонца, якое жывіць цяплом увесь наступны лёс айчыннай літаратуры. І калі агульнабеларуская ўвага да класікаў летась не выявілася ва ўсю моц, не сталася масавай з'явай, то на Пухаўшчыне, прыкладам, было зроблена ўсё магчымае і, мажліва, нават болей дзеля ўшанавання памяці Якуба Коласа.**

**ДАСЛЕДЧЫКІ. МЯСЦОВЫЯ РУПЛІЎЦЫ КОЛАСАЗНАЎСТВА**

Повязь Якуба Коласа з Пухаўшчынай — справа вядомая. З пачатку 1930-х гадоў пясняр палюбіў гэтую старонку. Вусце, Талька, Загібелька, Балачанка, Беразянка, Падбярэжжа — вось пухавіцкія вёскі, дзе ладзіў летаванне сваёй сям'і Канстанцін Міхайлавіч. Тут пісаліся многія творы. Тут Коласа памятаюць і зараз. Ёсць сведкі блукання яго па грыбных мясцінах, рыбацкіх захапленняў паэта.

Зразумела, што найбольш цэласна матэрыялы пра пухавіцкі перыяд у жыцці і творчасці Якуба Коласа прадстаўлены ў мінскім мемарыяльным музеі паэта. Але і на Пухаўшчыне, аказваецца, не абыходзілі і не абыходзяць увагай коласазнаўчы накірунак у літаратурна-краязнаўчай рабоце. У свой час пэўная традыцыі ў гэтай справе заклаў светлай памяці Анатоль Ярохін. Будучы родам з Краснапольшчыны, ён палюбіў пухавіцкую старонку, даследаваў таямніцы яе гісторыі. І яшчэ да 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа ў 1972 годзе надрукаваў у пухавіцкай "раёнцы" вялікі нарыс "Якуб Колас і Пухаўшчына". Фактычна ў той публікацыі — абрысы будучай кнігі. Але асобным выданнем, на вялікі жаль, нарыс так і не пабачыў свет.

Выключна шмат па росшуку сведкаў Коласавага жыцця на Пухаўшчыне зрабіў, працягвае рабіць дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы Браніслаў Зубкоўскі. Ім распрацаваны маршрут турысцкіх вандровак па коласаўскіх мясцінах. Плён коласазнаўчых доследаў Браніслава Зубкоўскага — рукапіс дакументальна-мастацкай кнігі. Шкада толькі, што і яна таксама можа застацца ў рукапісе. Але ўжо добра тое, што даследаванні праведзены. Нямала коласазнаўчых публікацый Браніслава Зубкоўскага з'явілася на старонках многіх газет і часопісаў. У раённай бібліятэцы, што месціцца ў Мар'інай Горцы, усе гэтыя публікацыі "запратакаліраваны" бібліяграфічнымі карткамі, сабраны ў асобных папкі. Значыць, праца не марная. Наступнікі могуць карыстацца.

Сёння коласазнаўства так ці інакш выяўляе сябе ў працы Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея. Здымкі Якуба Коласа, яго сям'і зберагаюцца ў музеі дзіцячага санаторыя "Пухавічы".

**КОЛАСА ВЕДАЕ І ШАНУЕ КОЖНЫ ВУЧАНЬ**

Леташні коласаўскі юбілей стаў прычынай правядзення на Пухаўшчыне коласаўскіх дзён. У школах раёна ці, на крайні выпадак, у большасці з іх прайшлі ранішнікі, вечарыны. Як ніколі за апошнія гады, да вучняў Пухаўшчыны прыйшлі ў госці пісьменнікі. Генрых Далідовіч, Васіль Шырко — у Талькаўскую сярэднюю школу. Міхась Зарэмба, Мікола Жыгоцкі — у Пухавіцкую. І ўсюды гаварылі пра веліч, шматгранкасць паэтычнага таленту Коласа.

Бываючы на сустрэчах, прымеркаваных да коласаўскіх дзён, пераканаўся: дзеці ўважліва слухаюць мінскіх гасцей. Яно і зразумела, бо не часта даводзіцца сустракацца з аўтарамі тых кніг, якія бачыш у бібліятэцы. Падумалася і пра тое, што пры сучасных умовах, калі гэтулькі страт дзеецца на ніве духоўнасці, трываліць трэба сувязі пісьменніка са школай. Толькі ў Мар'інай Горцы — пяць сярэдніх школ. Ці часта туды прыходзяць пісьменнікі? І хто вінаваты ў адсутнасці такіх вось сувязяў?

А ўвогуле школа — значны, важкі асяродак для ўтрымання і развіцця коласаўскай прысутнасці на Пухаўшчыне. Будзем спадзявацца, што арганізатары народнай асветы ў Пухавіцкім раёне гэта разумеюць.

**ПАМЯТКІ**

Калі параўноўваць зробленае па ўшанаванні памяці пра Коласа на Стаўбцоўшчыне і на Пухаўшчыне, то, канешне ж, старонка, якая дала паэту жыццё, пaперадзе краіны ўсёй. Філіялы мінскага музея, драўляная скульптура, памятныя камяні, шматлікія святы, фестывалі... На Пухаўшчыне летась пачатак такой работы выразна абазначаны. У Тальцы адкрыта мемарыяльная дошка ў знак таго, што ў вёсцы летаваў Колас, што любаваўся хараством і сціплай рачулкі Талька.

**Талька — слаўная рачулка,**
**Грунт яе пясчаны.**
**Бераг мяккі, як падушка,**
**Дзірваном засланы.**
**Луг квяцістым**
**на ўзбярэжжы,**
**А трава, як лава.**
**На грудах дубы, як вежы,**
**Паглядзець цікава,**
**А буслоў тых і не злічыш —**
**Цэлыя брыгады!**

Можна было б заўважыць сціпласць тае талькаўскай дошкі, тое, што яна зроблена зусім не мінскім скульптарам. Але на сёння галоўнае, што дошка ўстаноўлена, што многія наведвальнікі чыгуначнага вакзала ў Тальцы сустракаюцца з сціплым надпісам.

Уразіў мар'інагорцаў, пухаўчан і вялікі коласаўскі вечар, які быў наладжаны ў гарадскім Палацы культуры ў Мар'інай Горцы. Сярод гасцей былі малодшы сын паэта — доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, унучка Коласа — Марыя Міцкевіч. Дыялог з удзельнікамі вечарыны вялі вядомыя пісьменнікі — землякі

(Заканчэнне на 8-й стар.).



**70-гадовы юбілей адзначыла Магілёўскае вучылішча культуры. За гэты час у яго сценах атрымалі высокую прафесійную падрыхтоўку больш за 16 тысяч выпускнікоў. Цяпер гэта кіраўнікі гуртокў мастацкай самадзейнасці, выкладчыкі школ мастацтваў і дзіцячых мастацкіх школ, метадысты-арганізатары і г. д. Валодаючы сучаснай матэрыяльнай базай, высокакваліфікаваны выкладчыцкі састаў вучылішча і сёння рыхтуе новыя кадры, каб папаўняць шэрагі работнікаў культуры.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчык аддзялення дэкаратыўна-прыкладного мастацтва Уладзімір ПАХАЎЦАЎ на занятках па кераміцы.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

# ВАЛЕНЦІЙ ВАНЬКОВІЧ ВЯРТАЕЦЦА НА РАДЗІМУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Пахаваны на могілках Манмартра Сэн-Дэні.

Здавалася б, кропка пастаўлена, і імя мастака далучыцца да шэрагу іншых выдатных беларускіх імёнаў, якім воляй лёсу і абставін наканавана сысці ў гістарычныя і культурны нябыт менавіта на радзіме. Але, на шчасце, дзякуючы намаганням зацікаўленых, неабыякавых людзей, так не здарылася. Замест таго каб беззваротна згінуць, да жыцця вяртаецца яшчэ адзін, зусім не няданосяцца гукі старадаўняга фартэпіяна (якое сапраўды маецца), і, нібыта насустрач ім, сігуніцца пышныя духмяныя галінкі бэзу... Прыгожа! Дырэктар музея "Дом Ваньковічаў" Наталля Сычова і намеснік дырэктара па навуковай працы Нацыянальнага мастацкага музея, адзін са старэйшых музейных работнікаў Беларусі, Ірына Паншына вераць: так абавязкова будзе!

Што ж, справы рухаюцца. Але... Сумна канстатаваць: сёння ў Беларусі няма ніводнай (!) арыгінальнай работы Валенція Ваньковіча. Затое яны ёсць у музеях Вільнюса і Варшавы. Здавалася б,



мы, сведка мінулага, якое хаця пайшло ад нас, але ўсё ж такі не памерла. У чарзе на хуткае "ўваскрашэнне" — выдатны помнік пачатку XIX стагоддзя "Дом Ваньковічаў" (а ў перспектыве і цэлая сядзіба).

У Беларусі Валенцій працаваў цэлае дзесяцігоддзе і меў некалькі майстэрняў — у Малой Сляпянцы і Мінску. Дом, пра які ідзе размова, месціцца на Валоскай вуліцы Верхняга горада і належаў стрыечнаму брату мастака Эдварду. Менавіта тут збіраліся мастакі, паэты, музыканты, увогуле мясцовая дваранская інтэлігенцыя. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў дом Ваньковічаў лічыцца сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця горада. Сёння арганізатары музея "Дом Ваньковічаў". Мастацтва і культура першай паловы XIX стагоддзя" імкнуцца аднавіць былое, зрабіць так, каб і праз доўгія-доўгія гады тут зноў загучала музыка, прыгожае літаратурнае слова, пачалі адкрывацца вернісажы... Спачатку — у гасцёўні галоўнага збудавання — самім панскім доме, а пазней у спецыяльна для такіх мэт прыстасаваных памяшканнях былога гаспадарчага флігеля, якога пакуль, праўда, яшчэ няма, але які праз нейкі час (вось толькі — калі?) мяркуецца быць. Да таго ж у плане аўтараў — прыгожы сад вакол пабудоў і бюст Валенція Ваньковіча побач з галоўным уваходам у дом. Вядомы беларускі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў ужо працуе над гэтым помнікам. Уявіце: з расчыненага акна найперш бачыцца: паспрабаваць купіць там хаця б некалькі карцін, ды зноў-такі — грошай не хапае. Канечне, беднасць — не загана, але нельга забываць, што і ў беднасці існуе пэўная рыса, пераступаць якую проста небяспечна, бо зваротнага шляху ўжо можа і не быць. Асабліва ў такой тонкай, далікатнай сферы, як духоўнасць і культура цэлага народа.

А пакуль кіраўніцтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі шукае якое-небудзь выйсце: заказалі ў Польшчы і атрымалі копію таго знакамітага партрэта Адама Міцкевіча (у абмен на аналагічнага плана паслугу для палякаў), рыхтуюць каталог прац Ваньковіча, робяць захады, каб арганізаваць выставу — хаця б з 8—12 карцін мастака... Дарэчы, у музеі ёсць адзін невялікі партрэт кагосьці з членаў сям'і Манюшкаў, які можа належаць пэндзлю Валенція Ваньковіча. Але прыйсці да канчатковай высновы пакуль немагчыма: няма з чым параўнаць атрыманыя даныя хімічнага і спектральнага аналізу гэтага палатна.

Ды і ўвогуле, дом Ваньковічаў — хутчэй, агульная ілюстрацыя жыцця і быту беларускага дваранства пачатку XIX стагоддзя, чым рэстаўрацыя канкрэтнага жытла сям'і Ваньковічаў. У інтэр'еры памяшканняў толькі адна рэч, як лічаць супрацоўнікі музея, калісьці ў рэальнасці належала гэтай сям'і — белая мармуровая станковая скульптура. Яе адкапалі ў тады яшчэ руінах дома жыхары суседніх кварталаў, а пазней прапанавалі музею купіць. Астатняе, безумоўна, таксама сапраўдныя рэчы таго часу, але да дома Ваньковічаў ніякага дачынення не маюць. Мэбля, вялікае люстра, свяцільнікі, фарфор, гарбелены набываліся ў антыкварных магазінах Расіі, сядзібныя партрэты — з фонду Нацыянальнага музея, дзе ў сувязі з гэтым вельмі задаволены: дзякуй Богу, усё гэтае багацце больш не будзе хавацца ў запасніках. Дарэчы, сядзібныя партрэты, што экспануюцца ў залах дома Ваньковічаў, сабраны і прывезены з розных куткоў Беларусі. Няма ўжо тых маёнткаў, сцены пакояў якіх упрыгожвалі гэтыя карціны: час зруйнаваў нават сляды многіх сядзіб. Тым больш прыемна і каштоўна, што гэтыя мастацкія "сіроты" ўрэшце атрымалі свой новы прытулак. Верыцца: дом Ваньковічаў стане гасцінным і ўтульным і для рэчаў, што яго ўпрыгожваюць, і для людзей, якія знойдуць тут сапраўдную прыемнасць для душы і сэрца.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: інтэр'ер музея В. Ваньковіча ў Мінску; адзіная рэч у музеі, якая належала дому Ваньковічаў.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# БЫВАЙ, ЛЕЦЕЙКА!







Генадзь АЎЛАСЕНКА

## РАЗВІТАННЕ З ЛЕТАМ

*(ТРЫПЦІХ)*

I

Дзень дагарае,
нікне пакрысе...
(І сонца
без адзінай хмаркі села).
Трава,
што вельмі хутка стане
сенам,
апошні раз
купаецца ў расе...
Апошні раз
купаецца ў расе
трава,
што вельмі хутка стане
сенам...
Бо сонца
без адзінай хмаркі села...
І ноч
ужо праходзіць пакрысе...

II

Ноч маланкамі
зіхаціць,
пахне верасам
па лясах...
Вельмі хутка
лета ляціць...
А чаму!
Не ведаю сам!
Мо таму,
што доўга чакаў!
Мо таму,
што штосьці шукаў!
Ад мінулага
ўсё ўцякаў...
Аднаго сябе
ашукаў...
Аб адным
даведаўся сам —
што за ўсё
патрэбна плаціць...
Пахне верасам
па лясах...
І так хутка
лета ляціць...

III

Жнівень...
Салодкі
і крышачку горкі...
З чорнага неба
падаюць зоркі.
Падаюць зоркі...
(Так павялося).
Жнівень...
А колькі ж яго
засталося!
Ветразі хмар
праплываюць над намі,
па-над зямлёй
туманы дыванамі...
Спеюць брусніцы
ў лясных баравінах...
І журавіны...

## АРХЕОЛАГІ НА БЫЛОЙ ПРЫДЗВІНСКАЙ

Завяршаюцца археалагічныя раскопкі ў зоне новага будаўніцтва на гістарычнай вуліцы Талстога ў Віцебску. Як адзначыла старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Вольга Ляўко, выяўлены рэшткі забудоў ад XI—XII да XVII стагоддзяў. Знойдзены рэшткі чыгунаў, паппаўкі, драўляны посуд, бронзавы бранзалет. У адным доме XII стагоддзя адшукана вялікая колькасць шкляных бранзалетаў. Магчыма, у ім жыў ювелір альбо купец. Дзякуючы намаганням вучоных, старажытная віцебская вуліца, якая называлася раней Прыдзвінскай, можа мець свой сапраўдны гістарычны выгляд. Фінансуе раскоп вядомая фірма "Марко".

## ПЛЕНЭРЫ НА РАДЗІМЕ Н. ОРДЫ

Некалькі гадоў назад на Брэстчыне быў утвораны грамадскі фонд Напалеона Орды. Арганізацыя праводзіць немалую навукова-асветніцкую работу ў асэнсаванні жыццёвага і творчага шляху вядомага мастака і кампазітара XIX стагоддзя, прымае захады для адкрыцця музея-сядзібы ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна — на яго радзіме. Фонду належыць таксама ініцыятыва правядзення штогадовых пленэраў на Палессі.

Сёлета адбыўся ўжо трэці пленэр з удзелам Генадзя Сурмы, Міхася Кебеца, Язэпа Крупскага і іншых мастакоў-берасцейцаў. На гэты раз яны працавалі ў Опалі і яго ваколіцах, іхняй працы спрыяў тутэйшы калгас. З цягам часу на радзіме Напалеона Орды мае адкрыцца карцінная галерэя. Ужо створана добрая аснова для гэтага.

# «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

### РЫЦАРЫ ЕЎРАПЕЙСКАЙ САРМАТЫІ

На двор да аднаго заможнага шляхціца чынна і з цікавасцю на твары ўязджае запрошаны госць з далёкай Балоны. Гаспадар з шчырым гонарам паказвае сваю радавую сядзібу, галоўны аб'ект якой — драўляны палац у мясцовым стылі.

— О, які цуд! — аддаючы даніну моманту, усклікае чужаземец, чым бясконца ўлагоджвае пачуцці зямяніна, і завяршае: — Я ніколі ў жыцці не бачыў так прыгожа складзеных дроў!

Стары дваранін з тых, што служылі яшчэ Жыгімонту Аўгусту, цяжка захварэў. Лекары, якія абследавалі яго, безнадзейна махнулі рукой, што ўсе зразумелі, як блізкі канец. Пакоры сваякоў у вяльможы не было, то некалькі знаёмых дваран, а за імі і слугі кінуліся ў пакой паміраючага, каб прыхапіць нешта каштоўнае з маёмасці. У імгненне вока ўсё было разрабавана. Засталіся толькі дзве жывёлінкі, што неяк суцяшалі адзінокага саноўніка на сконе жыцця: маленькая малпа ды сабачка. Раптам малпа, як бы нагледзеўшыся на людзей, што паспешна хапалі розныя рэчы, выцягнула з-пад галавы свайго гаспадара падушку і пабегла з ёю ў куток. Сабачка кінуўся ўслед з шалёным брэхам і стаў цягнуць тую падушку да сябе. Ад гэтага вэрхалу і тузаніны дваранін ачуўся і, угледзеўшы прычыну, рассмяяўся: "О, Божа! І яны б'юцца за маю спадчыну". Ад гэтага смеху яму стала лягчэй, а праз некалькі дзён ён зусім ачуняў.

У нейкім сяле, дзе пражывала адна збяднелая шляхта, гаспадыня-шляхцянка паслала сваю дзеўку-прыслугу да суседкі-шляхцянкі з просьбай пазычыць мяшок. Тая адказала: "Кланяйся сваёй пані і перадай прабачэнне, што мяшка пазычыць не магу, бо адзін мяшок накінуў на сябе старэйшы сын і пагнаў свіней у поле, пад другім — спіць малодшы паніч, а больш мяшкоў няма".

З кнігі Л. КАЗЛОВІЧА.

# КОЛАС НА ПУХАЎШЧЫНЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Коласа Генрых Далідовіч, Казімір Камейша, Яўген Хвалей. Што цікава, у свяце паэзіі прынялі ўдзел і знакамітыя земляк пухачан. Сярод іх — і акадэмік С. Астапчык. Імя Коласа, работа па яго ўшанаванню — усё гэта паяднала розных людзей, што само па сабе таксама з'яўляецца важкім плёнам.

### УВАГА ЎЛАДЫ, ІНІЦЫЯТЫВА ГРАМАДСКАСЦІ

Коласаўскія дні на Пухаўшчыне пераконваюць: мясцовая ўлада асэнсавана ставіцца да культурна-асветніцкай работы. Вось і старшыня Пухавіцкага райвыканкома Фёдар Супрун быў удзельнікам многіх мерапрыемстваў, актыўна выступаў. Шмат намаганняў у арганізацыю коласаўскіх дзён на Пухаўшчыне ўклалі намеснік старшыні райвыканкома Тамара Шчакоцін, загадчык аддзела культуры Яўген Сушко. Душой многіх ініцыятыў, чалавекам, які шмат зрабіў для іх рэалізацыі, з'яўляецца дырэктар раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пранові́ч.

Асобна трэба сказаць пра мясцовую раённую газету "Пухавіцкія дні". Болей як дзесяць коласазнаўчых публікацый было змешчана на яе старонках у лістападзе і на пачатку снежня. А яшчэ ж і на працягу ўсяго года друкаваліся цікавыя артыкулы коласаведа Браніслава Зубкоўскага.

Здавалася б, усе гэтыя наробкі досыць сціплыя. І тым не меней для Пухаўшчыны і для памяці пра Коласа досыць важкія, істотныя.

### ПЕРСПЕКТЫВА. МАРЫ, ЖАДАННІ

Побач з адной з коласаўскіх вёсачак — Падбярэжжам — ёсць выдатная паляна, дзе звычайна праводзіліся раённыя святы, фестывалі. Мо ўжо ў 1998 годзе ля Падбярэжжа пройдзе коласаўскі фестываль паэзіі? Няўжо не прыйдуць людзі паслухаць сапраўдных майстроў вершаванага слова? Мо зверне ўвагу каторае з дзяржаўных выдавецтваў і на рукапіс краязнаўчых апавяданняў Б. Зубкоўскага пра Коласа? Добра было б, каб хаця ў адной са школ Пухаўшчыны з'явіўся грамадскі філіял мінскага музея Якуба Коласа. Мо яшчэ ў гэтым альбо ў наступным навучальным годзе аддзел адукацыі абвесціць конкурс на лепшае сачыненне па творах Коласа?..

Прапановы, ідэі, праекты можна і трэба доўжыць. З часам, веру, яны ўвасобяцца ў рэальнае жыццё. Прычына такой веры — прысутнасць на Пухаўшчыне людзей, здольных збіраць і зберагаць памяць пра вялікага паэта.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1240.
Падпісана да друку 17.08.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.